# АБ МЯСАЗАГАТОЎКАХ

## Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б)

У мэтах упарадкаваньня справы загатовак мяса і далейшага палегчаньня сялян у справе выкананьня скарочанага пастановай СНК і ЦК ад 10 мая г. г. пляну мясазагатовак, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б) пастанаўляюць:

1. Зацьвердзіць плян здачы мяса саўгасамі на пэрыяд з 1-га кастрычніка 1932 году па 1-е студзеня 1934 году ў колькасьці 300 тысяч тон супроць зданых за папярэднія 15 месяцаў 130 тысяч тон, у тым ліку па саўгасаб'яднаньнях (у тысячах тон):

| | |
|---|---|
| 1. Скатаводаб'яднаньне | 70 |
| 2. Сьвінаводаб'ядняньне | 90 |
| 3. Аўцаводаб'яднаньне | 55 |
| 4. Маслааб'яднаньне | 19 |
| 5. Плодааб'яднаньне | 0,9 |
| 6. Дзяржфэрмтрэст | 0,6 |
| 7. Дзяржпрамсаўгастрэст | 1,6 |
| 8. Зернатрэст | 1,1 |
| 9. Рэспубліканскія саўгасы УССР | 5,3 |
| 10. Рэспубліканскія саўгасы БССР | 4,0 |
| 11. Рэспубліканскія саўгасы ЗСФСР | 0,2 |
| 12. Рэспубліканскія саўгасы Сярэдняй Азіі | 4,3 |
| 13. Саюзцукар | 18,0 |
| 14. Сьвінатрэсты Наркамснабу | 8,0 |
| 15. Саюзкаракуль | 1,8 |
| 16. Аленяводтрэст | 4,4 |
| 17. Іншыя саўгасы | 16,8 |

2. Устанавіць з 1 кастрычніка 1932 году для ўсіх аднаасобных сялянскіх гаспадарак і калгасных двароў маючыя сілу падатку абавязацельствы пастаўкі (здачы) мяса дзяржаве па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах.

3. Зацьвердзіць на 15 месяцаў, на тэрмін з 1 кастрычніка 1932 году па 1 студзеня 1934 году ніжэйнаступныя нормы здачы мяса ў кілёграмах жывой вагі, асобна для аднаасобных сялянскіх гаспадарак асобна для калгасных двароў у калгасах, ня маючых таварных жывёлагадоўчых фэрм і асобна для калгасн. двароў у калгасах з таварнымі жывёлагадоўчымі фэрмамі.

Кіргіская АССР, Усходня-Сібірскі Край, Заходня Сібірскі край, Якуцкая АССР, Заходняя вобласьць, БССР, Уральская вобласьць, Башкірская АССР—для аднаасобных сялянскіх гаспадарак—50 *кг*, для калгасных двароў у калгасе, ня маючых жывёлагадоўчых таварных фэрм—32 кілёграма, для калгасных двароў у калгасах з таварнымі фэрмамі—25 кілёграм.

Ніжагародзкі край, Паўночны край, Ленінградзкая і Маскоўская вобласьці, Сярэдня-Волскі край, Татарская, Крымская і Казанская АССР, Паўночна-Каўкаскі край, УССР, ЗСФСР, Ніжня-Волскі край, ДУК—для аднаасобных сялянскіх гаспадарак—45 кілёграм, для калгасных двароў—калгасаў, ня маючых жывёлагадоўчых таварных фэрм—30 кілёграм, для калгасных двароў у калгасах з таварнымі фэрмамі—20 кілёграм.

ЦЧО, Іванаўская вобласьць, Карэльская і Каракалпакская АССР, Узьбекская, Тукменская, Таджыкская ССР—для аднаасобных сялянскіх гаспадарак 40 кілёграм, для калгасных двароў у калгасе, ня маючых жывёлагадоўчых таварных фэрм—25 кілёграм, для калгасных двароў у калгасах з таварнымі фэрмамі 15 кілёграм.

4. Устанавіць наступныя календарныя тэрміны выкананьня 15-месячнага пляну мясазагатовак аднаасобнікамі, калгасьнікам у процантах ад нормы, падаючай на двор па абласьцях, краях, рэспубліках.

| Найменьне краёў, вобласьцяй, рэспублік | 4 квартал 1932 г. у проц. | 1 квартал 1933 г. у проц. | 2 квартал 1933 г. у проц. | 3 квартал 1933 г. у проц. | 4 квартал 1933 г. у проц. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Паўночны край | 6 | 19 | 13 | 28 | 34 |
| 2. Карэльская АССР | 27 | 15 | 18 | 23 | 37 |
| 3. Ленінградзкая вобл. | 25 | 13 | 10 | 22 | 30 |
| 4. Заходняя вобласьць | 27 | 14 | 13 | 19 | 27 |
| 5. Маскоўская „ | 22 | 21 | 14 | 19 | 24 |
| 6. Іванаўская „ | 25 | 17 | 10 | 17 | 31 |
| 7. Ніжагародзкі край | 27 | 13 | 3 | 20 | 27 |
| 8. Уральская вобл. | 27 | 13 | 13 | 19 | 28 |
| 9. Башкірская АССР. | 27 | 14 | 14 | 18 | 27 |
| 10. Татарская АССР | 16 | 12 | 18 | 23 | 31 |
| 11. Сярэдняволскі край | 25 | 14 | 14 | 22 | 25 |
| 12. ЦЧВ | 21 | 15 | 13 | 20 | 31 |
| 13. Ніжня-Вольскі край | 28 | 12 | 17 | 20 | 23 |
| 14. Паўночна-каўкаскі край | 28 | 14 | 16 | 19 | 23 |
| 15. Крымская АССР | 20 | 23 | 18 | 16 | 23 |
| 16. Казакская ССР | 27 | 14 | 15 | 19 | 25 |
| 17. Каракалпакская АССР | 19 | 21 | 12 | 21 | 27 |
| 18. Кіргізская АССР | 21 | 16 | 22 | 20 | 21 |
| 19. Заходня-Сібірскі край | 23 | 20 | 15 | 24 | 28 |
| 20. Усходня-Сібірскі край | 35 | 8 | 15 | 13 | 29 |
| 21. Якуцкая АССР | 36 | 18 | 18 | 0 | 28 |
| 22. Дальняўсходні край | 35 | 13 | 9 | 13 | 30 |
| 23. УССР | 32 | 15 | 13 | 19 | 21 |
| 24. БССР | 31 | 15 | 14 | 13 | 27 |
| 25. ЗСФСР | 16 | 15 | 17 | 26 | 26 |
| 26. Сярэдняя Азія | 28 | 12 | 19 | 23 | 18 |
| Усяго па СССР | 26 | 14 | 14 | 20 | 26 |

5. Устанавіць для таварных жывёлагадоўчых калгасных фэрм аформленых калгаснымі і зямельнымі органамі да моманту апублікаваньня гэтай пастановы, асобны плян здачы мяса дзяржаве на тэрмін з 1 кастрычніка 1932 году да 1 студзеня 1934 году па наступных нормах у кілёграмах жывой вагі:

Малочныя фэрмы—30 кілёграм з кожнай каровы наяўнага на 1 кастрычніка 1932 году стада за выключэньнем усяго маладняка.

Мясныя фэрмы буйнай рагатай жывёлы—30 кілёграм з кожнай галавы наяўнага на 1 кастрычніка 1932 году стада.

Сьвінагадоўчыя таварныя фэрмы—120 кілёграм з кожнай маткі наяўнага на 1 кастрычніка 1932 г. стада.

Аўцаводчыя фэрмы—10 кілёграм з кожнай маткі наяўнага на 1 кастрычніка 1932 году стада.

6. Прапанаваць Саўнаркомам рэспублік і Крайвыканкомам, крайкомам, абкомам і ЦК нацкампартый, выходзячы з норм устаноўленых у пункце трэцім для кожнай вобласьці, края ці рэспублікі, устанавіць і не пазьней 15 кастрычніка апублікаваць параённыя нормы здачы з некаторымі хістаньнямі вышэй ці ніжэй нормы з тым, каб выкананьне пляну па рэспубліках (краях, абласьцях) было забясьпечана поўнасьцю.

7. Да гэтага-ж тэрміну давесьці ўстаноўлены для калгасных фэрм плян да кожнай фэрмы.

8. Устанавіць, каб выкананьне абавязацельстваў па здачы мяса дзяржаве ўтваралася калгаснымі дварамі і аднаасобнікамі любым відам жывёлы ці птушкі, прычым здатчыкі могуць аб'яднацца ў групу для сумеснага выкананьня абавязацельстваў па пастаўцы мяса.

9. Катэгарычна забараніць мясцовым органам улады, а таксама загатоўчым арганізацыям накладаць на калгасныя таварныя фэрмы, на калгасьнікаў і аднаасобнікаў абавязацельствы па здачы мяса дзяржаве ў разьмерах, перавышаючых апублікаваныя ў адпаведнасьці з пунктам 6 гэтай пастановы параённыя нормы здачы, роўна як забараніць здаваць дадатковыя ці сустрэчныя пляны па здачы мяса гаспадаркамі, датэрмінова выканаўшы свае абавязацельствы, забясьпечыўшы акуратным здатчыкам поўную магчымасьць свабодна распараджацца лішкамі сваёй прадукцыі па сваіх меркаваньнях.

10. Ухіляючыхся ад выкананьня абавязацельстваў па пастаўцы мяса дзяржаве прыцягваць да грашовага штрафу ў разьмеры да рыначнай каштоўнасьці нявыкананай часткі абавязацельстваў і з ізьяцьцем належачай да здачы жывёлы ў бясспрэчным парадку.

**Старшыня СНК Саюзу ССР В. МОЛАТАЎ (СКРАБІН).**

**Сакратар ЦК Усе КП(б) І. СТАЛІН.**

XVIII
7925 (XII)

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

19
1932
КАСТРЫЧНІК

АРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР





ЗЬМЕСТ

**Перадавая**—Пастанова ЦК УсеКП(б) аб мясазагатоўках.

Пастанова СНК аб мерапрыемствах павышэньня ўраджайнасьці.

**Сьвяржынскі**—Не дапушчаць скажэньняў у разьмеркаваньні даходаў у калгасах.

**Ліст калгасьнікаў**—Чым мы сустракаем 15-годзьдзе Кастрычніка.

**Н. С.**—Перадавікі збожжазагатовак.

**Г. П.**—Засеялі ў тэрмін і добраякасна.

**К. Г-к.**—Калгас „Чырвоны Кастрычнік" на лінію перадавых.

**К. Г.**—Узараць на зіму 400 *га*.

**Р. Домінікаў**—Раўняцца па перадавых.

**С.**—Перавыканалі плян.

**Хадарэнка**—Штурм ільняных барыкад.

**Сяргееў**—Ведзяны арэх на корм.

**А. С.**—Дзяржаўныя племянныя кнігі чырвона-беларускай і швэдзкай пароды жывёлы ў БССР.

**А. С.**—Ад чаго залежыць у кароў павышэньне і памяншэньне ўдоя малака.

**Асьнецкая.**—Уборка гародніны і барацьба з гніцелямі пры хаваньні.

**Шчэпікаў**—Корм для аслабеўшых коняй.

**Трафімава**—Уборка і захаваньне насельнікаў гародных культур.

**Харытановіч**—Як апрадзяліць вагу ураджаю ў калгасах.

Убраць і захаваць бульбу без страт.

**Жвонскі**—Сіласаваньне бульбы.

## ПЕРАНЯСЕМ ЛЕПШЫ ВОПЫТ БАРАЦЬБЫ ЗА ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ ВА ЎСЕ КАЛГАСЫ

### Арганізуем на старонках нашай часопісі паказ лепшых калгасаў у барацьбе за ўраджай сацыялістычных палёў

### ДА ЎСІХ КАЛГАССАЮЗАЎ, КАЛГАСАЎ, АГРАНОМАЎ, КАЛГАСЬНІКАЎ І КАЛГАСЬНІЦ, БРЫГАДЗІРАЎ, СЕЛЬКОРАЎ І РАБОТНІКАЎ МТС

Камуністычная партыя і савецкі ўрад паставілі перад усімі калгасамі баявую задачу аб падваеньні ўраджайнасьці калгасных палёў у бліжэйшыя гады. Высокая ўраджайнасьць—аснова арганізацыйнагаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, росту культбытавога ўзроўню калгасьнікаў, пасьпяховага разгортваньня будаўніцтва сацыялізму ў СССР.

Рад калгасаў БССР паказалі ўзорныя прыклады сапраўднай барацьбы за высокі ўраджай, дабіўшыся аграмаднейшых дасягненьняў. Камуна „Праца", Ельскага раёну, па ўраджайнасьці бульбы абагнала перадавыя па ўраджайнасьці капіталістычныя дзяржавы, дабіўшыся 300 **цнт.** ураджаю бульбы з 1 **га.** Сельскагаспадарчая арцель „Прагрэс", Лёзьненскага раёну, дабілася 5 **цнт.** ураджаю ільнавалакна з 1 **га** і высокай номернасьці яго (2,0). Камуна „Верны шлях", Дрысенскага раёну, дабілася 20 **цнт.** ураджаю азімай пшаніцы з 1 **га.** Дзесяткі сотні іншых калгасаў БССР маюць таксама значныя дасягненьні ў барацьбе за высокі ўраджай.

Але гэтыя дасягненьні застаюцца ўласнасьцю гэтых калгасаў яны ня выходзяць за межы гэтых гаспадарак, ня зроблены здабыткам іншых калгасаў, здабыткам шырокай калгаснай грамадзкасьці. Вопыт перадавых калгасаў, іх мэтады работы, правадзімыя імі мерапрыемствы, якія забясьпечваюць такую высокую ўраджайнасьць, не пераносяцца ў практыку работы ўсіх калгасаў. Аграномы, раённыя і іншыя работнікі моўчкі абходзяць гэтыя каштоўнейшыя дасягненьні буйнай калгаснай гаспадаркі, ня робяць іх адным з найбольш магутных сродкаў барацьбы за высокі сацыялістычны ўраджай у сваёй штодзеннай рабоце.

Калгасцэнтр СССР разам з газэтай „Соц. земледелие" і часопісьсю „Калектывіст" і Калгасцэнтр БССР разам з газэтай „Калгасьнік Беларусі" і часопісьсю „Шляхі калектывізацыі" арганізуюць сыстэматычны вучот калгасаў, якія атрымоўваюць высокія ўраджаі і вучот усіх агратэхнічных мерапрыемстваў, якія праводзіліся імі і якія садзейнічалі павышэньню ўраджайнасьці для таго, каб перадаць вопыт лепшых прыкладных калгасаў у барацьбе за ўраджай усім калгасам СССР і БССР.

Гэты вучот будзе праводзіцца на падставе карэспандэнцый селькораў, калгасьнікаў, брыгадзіраў, калгасных аграномаў і інструктароў аб іх дасягненьнях у барацьбе за ўраджай. Кожная дасланая карэспандэнцыя, здавальняючая запатрабаваньням узорнага апісаньня калгасу, дасягненьні якога можна распаўсюдзіць па

усіх калгасах СССР—будзе аплачвацца Калгасцэнтрам СССР і „Соц. земледелия“ грашыма ў суме 300 р. за апісаньне калгасу, дасягненьні якога маюць рэспубліканскае значэньне—будзе аплачвацца Калгасцэнтрам БССР і „Калг. Беларусі“ грашыма ў суме 150 руб.

Лепшыя калгасы, якія будуць прызнаны найбольш узорнымі, будуць заносіцца ў сьпіс гонару, які сыстэматычна будзе друкавацца ў „Соц. земледелия“ „Калгасьніца Беларусі“ і ўвойдуць у спэцыяльны альбом, выдаваемы Калгасцэнтрам СССР і „Соц. землед.“ (калгасы, дасягненьні якіх будуць мець усесаюзнае значэньне). Калгасцэнтрам БССР і „Калг. Беларусі“ (калгасы, дасягненьні якіх будуць мець рэспубліканскае значэньне). У альбоме будуць друкавацца фатаграфіі лепшых калгасьнікаў, даўшых найбольш каштоўныя прапановы і праявіўшых ініцыятыву, арганізацыйную здольнасьць у падняцьці ўраджайнасьці. Гэтым калгасам будуць выданы спэцыяльныя атэстаты, як барацьбітам за высокі ўраджай; у гэтых калгасах будуць арганізаваны спэцыяльныя аграгабінэты для паглыбленьня ў далейшым работы па ўздыму ўраджайнасьці і распрацоўцы пытаньняў агратэхнікі.

Праўленьні Калгасцэнтраў СССР і БССР і газ. „Соц. землед.“ і „Калг. Беларусі“ ставяць перад сабой задачу эдабраць тысячу лепшых калгасаў па СССР і 200 па БССР з выдачай 20 (з тысячы па СССР) сьцягаў ударнікаў ад Калгасцэнтра СССР і „Соц. земл.“ і 4 (з 20) па БССР) ад Калгасцэнтра БССР і „Калг. Беларусі“.

У кожнай карэспандэнцыі павінны быць апісаны наступныя пытаньні:

1) Назва калгасу, сельсавет і раён.

2) Плошча пасеву і ўраджай у цэнтнэрах па паасобных культурах і брыгадах, з параўнаньнем ураджаю суседніх калгасаў, саўгасаў (паказаць іх назву) і аднаасобных гаспадарак, а таксама з ураджаем мінулых гадоў.

3) Канкрэтныя мерапрыемствы, у выніку якіх калгас атрымаў больш высокі ўраджай, чым суседнія калгасы, саўгасы і аднаасобныя гаспадаркі, з падрабязнай характарыстыкай мерапрыемстваў па наступных пытаньнях:

а) **По групе агратэхнічных мерапрыемстваў:** тэрміны сяўбы, севазварот, барацьба з сарнякамі, спосабы апрацоўкі глебы, успашка папараў, ачыстка папараў, лушчэньне, пасеў па зябі, глыбіня ўспашкі, баранаваньне, радковы пасеў, якасьць высяваемага насеньня, нормы высеву, угнаеньне (выкарыстаньне торфу, гною, вапны, мінэральных угнаеньняў адкідаў), барацьба са шкоднікамі, догляд за пасевамі і рад іншых пытаньняў агратэхнік.

б) **Па групе арганізацыйных пытаньняў:** арганізацыя працы, стварэньне брыгад, ліквідацыя абязьлічкі, мерапрыемствы па барацьбе са стратамі (спосабы і тэрміны ўборкі, абмалоту, рэгуляваньня машын, звозкі і скірдаваньня, вязкі снапоў, зграбаньня, зернаўлавіцелі і г. д.), спосабы хаваньня і аховы ўраджаю, рацыяналізатарскія мерапрыемствы і г. д.

в) Якімі мерамі зацікаўлены калгасьнікі, брыгады і брыгадзіры ў тым, каб найбольш актыўна весьці барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці, як заахвочваюцца (прэміраваньне) лепшыя ўдарнікі, лепшыя брыгадзіры за барацьбу за высокі ўраджай.

Неабходна апісаць ролю брыгадзіраў, паасобных калгасьнікаў, членаў праўленьня, старшынь праўленьняў, роля калгаснага актыву ў барацьбе за высокі ўраджай. Пажадана, каб найбольш актыўныя калгасьнікі—праявіўшыя большую самадзейнасьць у барацьбе за высокі ўраджай, даўшыя найбольш каштоўныя прапановы, якія ўжыў калгас,—былі зафатаграфаваны і былі дасланы іх аўтабіяграфіі.

**Таварышы калгасьнікі!**

Справа абмену вопытам ва ўмовах будаўніцтва сацыялізму, як гэта неаднаразова падкрэсьлівалася У. І. Леніным і т. Сталіным, зьяўляецца адным з важнейшых арганізуючых зьвеньняў.

Сацспаборніцтва зьяўляецца адным з найбольш моцных сродкаў барацьбы за аўладаньне тэхнікай, за арганізацыю найбольш прадукцыйнай высокадаходнай сацыялістычнай вытворчасьці. А арганізацыя сацспаборніцтва магчыма толькі на падставе шырокага паказу і абмену вопытам.

**Таварышы аграномы, інструктары, брыгадзіры, работнікі друку!**

Праўленьне Калгасцэнтру і рэдакцыі газэты „Калгасьнік Беларусі“ і часопісі „Шляхі калектывізацыі“ спадзяюцца, што аднэй з галоўнейшых задач у сваёй рабоце вы паставіце апісаньне дасягненьняў лепшых калгасаў, брыгады, дзе вы працуеце з мэтай шырокага распаўсюджаньня іх, гэтым самым вы дасьце магчымасьць весьці больш пасьпяховую барацьбу за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду за высокі сацыялістычны ўраджай.

Пры Калгасцэнтры створана група па вывучэньні і распаўсюджаньні лепшых вопытаў перадавых калгасаў, сапраўдных барацьбітоў за ўраджай.

**Калгасцэнтр БССР.**

Рэдакцыя газэты
**„Калгасьнік Беларусі“.**

Рэдакцыя часопісі
**„Шляхі калектывізацыі“.**





Калгас „Пабеда“, Лепельскага раёна арганізаваў здачу (продаж) сена дзяржаве ў парадку загатовак.

# ПАВЫШЭНЬНЕ УРАДЖАЙНАСЬЦІ— ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА

**„Пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі,—у напрамку павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх без выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант“.**

*(З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).*

## АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПАВЫШЭНЬНІ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ

### Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральнага Камітэту ЎсеКП(б)

Дзякуючы посьпехам калектывізацыі калгаснае сялянства ў асноўных сельскагаспадарчых раёнах аб'яднала 80—90 проц. зямлі, знаходзіўшайся раней ў аднаасобным карыстаньні. Дробныя палоскі аднаасобных гаспадарак з іх дальназямельлем, цераспалосіцай, пастаяннымі перадзеламі зямлі аб'яднаны зараз калгасным сялянствам у буйныя масывы. Арганізавана магутная сетка саўгасаў. Сельская гаспадарка атрымала больш 100 тысяч трактараў.

У выніку ўсяго гэтага пасеўныя плошчы па СССР вырасьлі, у параўнаньні з даваеннымі, на 30 мільёнаў гэктараў, асабліва па тэхнічных і прапашных культурах і травах.

Але з гэтага вынікае, што пасеўныя плошчы **пашыраны дастаткова**, і мэта першай стадыі пад'ёму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне плошчаў—ужо ажыцьцяўлена. Далейшае пашырэньне пасеўных плошчаў па тэхнічных і прапашных культурах, якія зьяўляюцца найбольш працаёмкімі, працягнула-б, праэьмерную перагрузку рабочай сілы і цягла пагоршаньне якасьці апрацоўкі і падзеньне ўраджайнасьці. Гэта значыць, што наступіў час, калі ад **росту гаспадаркі ўшыркі**, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна **павярнуць** да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за **павышэньне ўраджайнасьці**, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця. Перавагі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі даюць поўную магчымасьць павысіць ураджайнасьць у саўгасах і калгасах у разьмерах, недаступных аднаасобнай гаспадарцы.

У сувязі з гэтым **Савет Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральны камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:**

1. **Прыпыніць** далейшае пашырэньне плошчаў тэхнічных і прапашных культур па пляну 33-га году і прызнаць мэтазгодным пашырэньне плошчаў толькі па зернавых (галоўным чынам па пшаніцы, аўсу, ячменю).

2. Устанавіць плян яравой сяўбы к вясьне 1933 г. ў разьмеры 97 з паловаю мільёнаў гэктар. (на мільён гэктар. больш гэтага году) з тым, каб плошчы пад пшаніцай, аўсом і ячменем вырасьлі на 2 з паловаю мільёны гэктар, з якіх 1 мільён гэктар. за кошт агульнага прыросту плошчаў у 1933 годзе, а 1 з паловаю мільёна гэктар.—за кошт выцясьненьня другіх, менш важных культур.

3. Пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі, — у напрамку **павышэньня ўраджайнасьці** па ўсіх без выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант.

4. Даручыць НКЗему СССР па працягу 1933 году ўвесьці ва ўсіх саўгасах і калгасах **севазварот, як** адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці, з тым, аднак, каб увядзеньне севазвароту было зьвязана з адпаведным пашырэньнем у вядомых галінах і краях плошчаў пад зернавымі каласовымі культурамі.

5. Давесьці ў 1933-34 годзе **сартавы фонд зернавых** культур да 100 мільёнаў пудоў, у тым ліку 40 мільёнаў пудоў дзяржаўнага і 60 мільёнаў пудоў унутры МТС-нага міжкалгаснага абменнага фонду, даручыўшы НКЗему СССР устанавіць **насеннае** раёнаваньне і распрацаваць мерапрыемствы па пераходу на пасеў чыстасортным насеньнем па культурах і раёнах.

6. Даручыць НКЗему і НКЦяжпрому у двухтыднёвы тэрмін увайсьці ў СНК СССР з канкрэтнымі прапановамі аб вырабе да сэзона 1933 году неабходнай колькасьці машын для **мэханізацыі тэхнічных і прапашных культур**, як аднаго з лепшых сродкаў для падняцьця ўраджайнасьці.

7. Даручыць НКЗему СССР і НКЦяжпрому ў трохтыднёвы тэрмін увайсьці ў СНК Саюзу ССР з прапановай па ўзмацненьні вырабу **хімічных угнаеньняў**, асабліва азотных, неабходных для падняцьця ўраджайнасьці.

8. Даручыць НКЗему СССР і Трактарацэнтру перабудаваць работу машына-трактарных станцый так, каб задачы барацьбы за ўраджайнасьць была падначалена бягучая агра-вытворчая работа МТС, маючы на ўвазе, што машынна-трактарныя станцыі павінны стаць кіраўнікамі калгасаў ня толькі ў галіне дапасаваньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне агранаміі.

Старшыня Савету Народных Камісараў
Саюзу ССР—**В. Молатаў (Скрабін).**

Сакратар Цэнтральнага Камітэту
УсеКП(б) —**Сталін.**

1932 г. 29-IX.

# Не дапушчаць скажэньняў у разьмеркаваньні даходаў у калгасах

ЦК УсеКП(б) і Саўнарком СССР пастанавілі як асноўную і галоўную задачу ў разьмеркаваньні даходаў гэтага году,—выдачу натуральных і грашовых авансаў калгасьнікам у лік будучага разьмеркаваньня даходаў у поўнай суадпаведнасьці з колькасьцю выпрацаваных імі працадзён. Аднак, у радзе калгасаў гэтае важнейшае ўказаньне ня выконваецца.

У асобных калгасах, якія выдалі авансам калгасьнікам хлеба ў ходзе абмалота і якія выканалі плян здачы збожжа па загатоўках і ссыпку насеннага фонду, праўленьні калгасаў затрымліваюць разьмеркаваньне астатняй часткі збожжа, падлягаючага разьмеркаваньню па працаднёх. Між тым ёсьць яскравыя ўказаньні ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб тым, што пасьля скканчэньня здачы прадукцыі паводле ўстаноўленага пляну дзяржаўных загатовак раньніх збожжавых культур і пасьля вызначэньня насенных фондаў,—без усякага затрыманьня павінна быць выдадзена калгасьнікам уся астатняя частка харчовага і кармовага збожжа, якое ім прылічваецца.

У значнай частцы ільно-і канапляводчых калгасах зусім не папулярызавана і не праводзіцца ў жыцьцё пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб тым, што пасьля выкананьня пляну збожжазагатовак павінна быць разьмеркавана паміж калгасьнікамі 70—80 проц. ад агульнага фонду хлеба, які належыць да разьмеркаваньня з тым, каб астатнія 20—30 проц. фонду былі разьмеркаваны паміж калгасьнікамі пасьля сканчэньня масавай апрацоўкі ільну, з улікам колькасьці працадзён, затрачаных кожным калгасьнікам на пасеў, уборку і апрацоўку гэтых культур.

У асобных калгасах, як напрыклад, у калгасе „КІМ", Чырвонаслабодзкага раёну, калгасе „Чырвоны Кастрычнік", Шклоўскага раёну, і калгасе імя Леніна, Парыцкага раёну, — складзены пляны папярэдняга разьмеркаваньня даходаў. Пры чым наперад падлічана колькі даходаў атрымаюць паасобныя калгасьнікі, у выніку разьмеркаваньня ўсяго гадавога даходу нават па тых культурах, ураджай якіх ня ўбран яшчэ.

У гэтым годзе авансаваньне калгасьнікаў і разьмеркаваньне ўсёй астатняй часткі ўраджаю, пасьля выкананьня пляну загатовак і стварэньня насенных кармавых фондаў, павінны быць праведзены незалежна ад плянаў разьмеркаваньня. Папярэднія пляны разьмеркаваньня трэба рабіць толькі ў напрамку падвядзеньня вынікаў гаспадарчай дзейнасьці за гэты год і меркаваньня на будучы год, у напрамку праверкі выкананьня вытворчых заданьняў па калгасах і паасобных вытворчых брыгадах; шырока абгаварваючы гэтыя вынікі на агульных сходах і тым самым мабілізуючы калгасьнікаў на поўнае і пасьпяховае выкананьне ўборкі і апрацоўкі ўраджаю і сканчэньне ўсіх асеньніх работ.

У пляне разьмеркаваньня пералічных вышэй калгасаў дапушчаны памылкі і ў самым парадку разьмеркаваньня даходаў. Памылкі гэтыя заключаюцца ў наступным: у калгас, напрыклад, імя Леніна вылучан спэцыяльны фонд для дапамог шматядоццкім сем'ям і ня вылучан недатыкальны страхавы фонд кармоў.

У калгасе „Чырвоны Кастрычнік" не падлічана сума агульных даходаў і ня вызначана сярэдняя ацэнка працадня ў грашовым выражэньні. З агульных рэсурсаў калгаса выдзелен фонд прадуктаў для грамадзкага харчаваньня, які не залічан у агульны даход, падлягаючы разьмеркаваньню.

Не залічаны за кошт адлічэньняў у непадзельны фонд грашовыя выдаткі на капітальныя ўкладаньні, зробленыя з уласных даходаў калгасаў у 1932 годзе.

У калгасе „КІМ" у суму агульнага даходу ня ўключаны кошт насенных і кармовых фондаў і ў суму грашовых даходаў залічан кошт прадукцыі, падлягаючай разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі.

Шмат якія калгасы ігнаруюць пры разьмеркаваньні даходаў адно з важнейшых указаньняў ЦК і Саўнаркому аб павышэньні і паніжэньні ацэнкі працадня ці колькасьці выпрацаваных працадзён для брыгады і брыгадзіра ў залежнасьці ад якасьці работы брыгады.

Галоўнае, з чаго павінна выходзіць праўленьне калгасу пры павышэньні і зьніжэньні ацэнкі працадня, альбо колькасьці працадня, — гэта якасьці работы брыгады, ужываньне агратэхнічных мерапрыемстваў і барацьба са стратамі. Кожны калгас у сваіх канкрэтных умовах павінен апрадзяляць якасьць работы асобных брыгад і ўстанаўляць для іх ацэнку працадня, ці павышэньня колькасьці працадзён, ня выходзячы, аднак за межы той часткі агульнага даходу, якая падлягае разьмеркаваньню па працаднёх.

Трэба таксама папярэдзіць калгасы і ад другой крайнасьці, ад устанаўленьня павышанай і зьніжанай ацэнкі працадня, ці колькасьці працадзён — замест брыгад—для асобных калгасьнікаў. Такую памылку дапусьціў калгас „КІМ", Чырвонаслабодзкага раёну, што прывяло ў гэтым калгасе да грубейшага скажэньня дырэктывы партыі, калі калгасьніку Вечару Яну зьніжана агульная колькасьць выпрацаваных ім працадзён на 10 проц. за тое, што ён адмовіўся ад паездкі на станцыю Слуцак за мінэральным угнаеньнем.

Усе калгасы павінны ўлічыць пры разьмеркаваньні даходаў ураджаю і тыя памылкі, якія дапусьцілі пералічаныя вышэй калгасы.

Пры ўстанаўленьні павышанай выдачы натурай на працадзень тым сем'ям калгасьнікаў, якія маюць вялікую колькасьць непрацаздольных, нельга выдзяляць спэцыяльны фонд прадуктаў з агульных рэсурсаў, а трэба гэта рабіць пасьля вызначэньня колькасьці прадукцыі, падлягаючай разьмеркаваньню па працаднёх. Таксама пры выдзяленьні, па рашэньню саміх калгасьнікаў, прадуктаў для арганізацыі арцельнага харчаваньня, неабходна дабівацца таго, каб гэтыя прадукты выдзяляліся самімі калгасьнікамі з тэй колькасьці прадуктаў, якую яны атрымліваюць па сваіх працаднёх.

**І. Сьвяржынскі.**

# Сустрэць XV гадавіну Кастрычніка выкананьнем пляну збожжазагатовак

## Канкрэтнай справай адказваюць калгасьнікі на ліст ленінградзкіх рабочых

## ПЕРАВЫКАНАЛІ ПЛЯН

Ліст ленінградзкіх рабочых знайшоў свой адбітак сярод шырокіх мас калгасьнікаў. Дзякуючы масава-растлумачальнай рабоце, сацыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, арганізацыі грамадзкага буксіру адстаючых — у шэрагу калгасаў мы маем ня толькі выкананьне, але і перавыкананьне пляну збожжазагатовак.

Гэтыя калгасы наступныя:

Па Смалявіцкаму раёну — калгас „Семафор“, выканаўшы на 10 верасьня на 196 проц. плянавае заданьне, „Бальшавік“ — на 133 проц., „Новыя ляды“—на 120 проц., „Новыя ўсьцяжкі“ — 118 проц., імя Сталіна — 109 проц., „Перамога“ — 104 проц., „Новае жыцьцё“—111 проц. і „1-га мая“—101 проц.

Па Петрыкаўскаму раёну мы маем наступныя калгасы, якія на 10 верасьня перавыканалі выкананьне пляну збожжазагатовак — імя Варашылава выканаў плян на 300 проц., імя Чырвонай арміі— на 280 проц., „Пераможац“—105 проц.

Па Чачэрскаму раёну наступныя калгасы выканалі на 100 проц. плян збожжазагатовак на 10 верасьня: „Адзінства“, „Чырвоны араты“, „Чырвоная зорка“, камуна імя Леніна.

Па Шклоўскаму раёну—калгасы „Савецкая Беларусь“, „Чырвоны кастрычнік“, „Трактар“, „Чырвоная ніва“, камуна імя Молатава поўнасьцю выканалі свае збожжагатоўчыя пляны ў пачатку верасьня.

Мы маем шэраг калгасаў і па астатніх раёнах БССР, якія ня толькі выканалі, але і перавыканалі пляны збожжазагатовак.

Аднак ёсьць і такія калгасы, якія да гэтага часу яшчэ ня выканалі плян загатовак. Гэта тлумачыцца выключна тым, што ў гэтых калгасах зусім слаба праведзена сярод калгасьнікаў растлумачальна-масавая работа. Не мабілізавана актыўнасьць калгасьнікаў на выкананьне гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

Адстаючыя калгасы павінны ўжыць усе захады для таго, каб паскорыць тэмпы выкананьня збожжазагатовак.

Стопроцантнае выкананьне плянаў збожжазагатовак да 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі — лепшы адказ на ліст ленінградзкіх рабочых.

## Перадавікі збожжазагатовак

*(Жлобінскі раён)*

Ліст Ленінградзкіх рабочых выклікаў сярод шырокіх мас калгасьнікаў нашага раёну новую хвалю энтузіязму на барацьбу за падняцьце калгаснай вытворчасьці, на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Адразу, як толькі зьявіўся ў друку гэты ліст, былі скліканы агульныя сходы калгасьнікаў і калгасьніц для абгаварэньня тых патрабаваньняў, якія высунулі ў лісту рабочыя Ленінграда.

Асабліва доўга застанаўліваліся калгасьнікі на тым месцы ліста, дзе непасрэдна да іх зьвяртаюцца рабочыя:



Уборка бульбы ў калгасе „Чырвоны гароднік“, Менскага раёна.

„Калгасьнікі і калгасьніцы! Замацоўвайце перамогі сацыялістычнага земляробства. Змагайцеся са стратамі! Кожны страчаны кілёграм хлеба зьмяншае даходнасьць калгасу і б'е па бюджэту калгасьніка. Умацоўвайце харчовыя рэсурсы краіны!“

Гэтае месца з ліста ленінградзкіх рабочых прачыталася па-некалькі разоў.

На сходзе калгасьнікаў калгасу „Росквіт“ можна было, напрыклад, чуць наступныя выступленьні:

— Усё, як ёсьць, правільна апісана. Яны там на заводзе змагаюцца за выкананьне свайго пляну, а мы таксама павінны ў калгасе сваім выконваць пляны.

— Правільна!..

— Мала гаварыць, ды абяцаць. Трэба выканаць, от што.

— Ну і выканаем.

— То-та-ж, што трэба выконваць, а не займацца нам гаворкай толькі. А з збожжазагатоўкамі як у нас, га?

Сход маўчаў, нібы сароміўся адказваць на гэтае запытаньне. Тады той самы голас адказаў:

— З загатоўкамі ў нас дрэнна, можна сказаць. І паловы пляну ня выканалі. А мы чуем от, што рабочыя з Ленінграда пішуць... Пяцігодку выканалі яны за тры гады. І выканаюць да сьвята Кастрычніка тое, што бяруць на сябе, што абяцаюць у гэтым лісьце. А мы хіба ня можам чаго зрабіць да гэтага сьвята?

На гэтыя словы пасыпаліся з ўсіх куткоў галасы калгасьнікаў.

— Можам.

— Правільна, можам.

— Збожжазагатоўкі, скажам, выканаем.

— Выканаем.

— І сяўбу жыта трэба скончыць у тэрмін, як намечана па пляну.

— Правільна.

І на гэтым-жа сходзе калгасьнікі калгасу „Росквіт“ пастанавілі: у адказ на ліст рабочых Ленінграда выканаць плян асеньняй сяўбы ў тэрмін, указаны ў пляне, а таксама выканаць плян збожжазагатовак да 15 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі. Адразу-ж пасьля агульнага сходу вакол гэтых пытаньняў была шырока разгорнута масавая работа па брыгадах. Насьценная газэта шырока асьвятляла ход малацьбы і асеньняй сяўбы, паказвала лепшых ударнікаў, падцягвала адстаючых. Па выкананьні ўзятых на сябе самаабавязацельстваў было шырока разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

І калгас „Росквіт“ выканаў ужо ўзятыя на сябе самаабавязацельствы. Плян асеньняй сяўбы скончан. Гадавы збожжазагатоўчы плян выканан на 107 процантаў яшчэ да 10 верасьня. Калгас ударна праводзіць работу па ўборцы бульбы і гародніны.

Не адстаў і калгас „Чырвоная рудня“. Гэты калгас выканаў гадавы плян збожжазагатовак на 100 проц. таксама да 10 верасьня.

Так канкрэтнымі справамі адказваюць калгасьнікі Жлобінскага раёну на заклік ленінградзкіх рабочых.

**Калгасьнік Н—с.**

## З чым мы сустракаем 15-годзьдзе Кастрычніка

*(Пухавіцкі раён)*

Мы камунары камуны „Зьвязда“, Блонькаўскага сельсавету, Пухавіцкага раёну, горача вітаючы ініцыятыву пралетарыяў Ленінграду і калгасьнікаў калгасу „Камінтэрн“, Дзяржынскага раёну, — хочам расказаць аб сваіх перамогах, з якімі мы сустракаем 15-ю гадавіну Кастрычніка.

Наша камуна „Зьвязда“ арганізавана ў 1921 годзе на руінах былога маёнтку пана Шабуні.

Шмат цяжкасьцяй перамаглі мы на сваім шляху. У 1921 годзе 24 чалавекі эмігрантаў, прыехаўшы з Амэрыкі, заснавалі камуну „Зьвязда“. Ня маючы ніякіх сродак вытворчасьці, не атрымоўваючы ніякіх крэдытаў, камуна ўсё-такі ўзрастала дзякуючы адвазе і геройству камунараў. Кулацтва праводзіла шалёную траўлю камунараў. Тагочасны склад Наркамзему адмаўляў у дапамозе камунарам. Былі нават спробы абкласьці камунараў арэнднай платай і разьвярстаць камуну на пасёлкі.

І шмат другіх цяжкасьцяй перамаглі камунары.

Зараз наша камуна налічвае ў сваім складзе 40 сямей. Узрос культурна-бытавы ўзровень камунараў. На руінах вырасла магутная сацыялістычная гаспадарка.



У калгасе „Адраджэньне“, ЦЧО, абгаварваюць пастанову аб збожжазагатоўках і калгасным гандлі.

Пабудаваны 1 дом на 14 кватэр, тры трохкватэрных і адзін чатырохкватэрны дом, сталоўка і кухня з хлебапякарняй, гадавыя яслі, 3 гумны, 2 сьвінарнікі і 2 аборы для жывёлы, машынны склад, сталярня, млын нафтавы, плодасушылка, сыраварны завод, мармалядны завод. Камуна мае садова-гародную малочна-жывёлагадоўчую спэцыялізацыю.

Пасьпяхова праведзена веснавая сяўба і ўборка ўраджаю ў гэтым годзе на плошчы на 204 **га** і сенажаці на плошчы 95 **га**. Намі аказана сацыялістычная дапамога па ўборцы ўраджаю калгасу „Асоавіяхім“, на палёх якога наша буксірная брыгада ў складзе 10 лепшых ударнікаў з конямі і жняяркай-снапавязалкай і двума жняяркамі-самаскідкамі працавала на працягу пяці дзён.

Асеньнюю сяўбу на плошчы 49 **га** з перавыкананьнем пляну на 5 процантаў мы закончылі 29-га жніўня. Увесь пасеў утворан радковай сеялкай, гатунковым насеньнем, пры папярэдняй яго ачыстцы, у асноўным на мінэральным угнаеньні (супэрфасфат, тамашляк, касьцяная мука). Усяго пасеяна 22 тоны мінэральнага ўгнаеньня. Пад азімы пасеў глеба ўзорвалася два разы. Зяблевае ворыва намі ўтворана на плошчы 17 **га** і будзе закончана да 1 лістапада.

Плян збожжазагатовак у колькасьці 4 тысяч кілёграм намі ўжо выканан. Гадавы плян мясазагатовак намі выканан на 114 процантаў. Гадавы плян здачы малака намі ўжо выканан на 90 проц. і да 1 лістапада будзе забясьпечана стопроцантнае выкананьне пляну.

Камунары першымі ў раёне правялі падпіску на пазыку імя „чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“ на суму 2225 рублёў. Падпіскай ахоплены ўсе камунары ў сярэднім па 40 рублёў на кожнага працаздольнага. Ужо ўнесена ўзносаў 1200 рублёў, а астатнія ўзносы намі будуць унесены да 1-га кастрычніка. На акцыі Трактарацэнтру камунары падпісаліся на суму 1100 руб. і ўжо ўнесены грошы. Па выкананьні грашовых мерапрыемстваў камуна займае перадавое месца ў раёне.

Намі засіласавана 70 тон сіласу, альбо 58 процантаў пляну. Сіласаваньне намі будзе закончана

да 25 кастрычніка з выкананьнем сустрэчнага пляну ў 16 тон.

Праз калгасны рынак намі рэалізавана рознай сельскагаспадарчай прадукцыі на суму 3.200 руб., а да канца 1932 году абавязуемся праз калгасны рынак рэалізаваць рознай сельскагаспадарчай прадукцыі на суму 5.000 рублёў.

Апрача маючагася пладавага саду ў 14 **га**, да 15 кастрычніка мы абавязуемся засадзіць новага 10 **га** саду з сваёй школкі.

У падарунак пралетарыям гораду Леніна мы абавязуемся да 15-га кастрычніка наварыць на сваім заводзе і адгрузіць 25 тон яблачнага мармаладнага цеста.

Да 15 кастрычніка закончым уборку бульбы на плошчы ў 33 **га**. А 1-га кастрычніка мы абавязуемся поўнасьцю выканаць гадавы плян бульбазагатовак у 16,5 тон і высоўваем сустрэчны плян у 2,5 тоны.

У мэтах барацьбы з хішчаньнем, мы заводзім 10-дзённую справаздачнасьць брыгадзіраў перад саветам камуны і ўмацоўваем варту.

Усіх гэтых посьпехаў камуна дасягнула дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыйнай ячэйкі і разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва пры выкананьні і перавыкананьні норм выпрацоўкі.

Адзначаючы перамогі камуны, мы адзначаем аднachасова ўдарную работу нашых лепшых ударнікаў-камунараў, якія сваёй сапраўды прыкладнай працай паказваюць узоры гераічнага змаганьня за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне камуны. Вось яны: **Шымко Кастусь, Майка Янка, Кузьміч Сьцяпан, Бэсман Казімір, Дысюк Мікола, Сялецкі Пракоп, Бэсман Юзэфа, Душэўская Явіна, Тарлоўская Параска, Шымко Тэкля, Яськевіч Анюта, Тумашык Алесь, Ленік Антось.**

Для выкананьня ўзятых на сябе абавязацельстваў мы разгортваем новую хвалю сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва як паміж брыгадамі, так і індывідуальна. Мы цьвёрда ўпэўнены, што нашы сацыялістычныя абавязацельствы будуць ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

Па даручэньні агульнага сходу камунараў камуны **„Зьвязда“** падпісалі: **П Ф. Зялецкі, Лысюк Мікола, Яськевіч, Тумашук, Федарынчык С., Душэўская Н., Кузьміч.**

## Вялікія дасягненьні маленькага калгасу

*(Магілеўскі раён)*

Цьвёрда і беспаваротна сталі на сацыялістычны шлях — шлях перабудовы сельскай гаспадаркі на новы лад 26 гаспадароў, працуючых на палёх калгасу „Сталінскі прызыў“, Вендароскага сельсавету. Гэтыя калгасьнікі ўжо ня раз паказалі і паказваюць узоры бальшавіцкіх тэмпаў у ажыцьцяўленьні дырэктыў партыі і ўраду.

У іх не хапіла ў час вясеньняй пасеўнай кампаніі некалькі цэнтнэраў насеньня. Знайшлі выхад. Арганізавалі падворны абход, рэалізавалі 8 насенных пазык, і плян сяўбы выканалі на 103 проц.

Зараз таксама калгас паказвае прыклады, вартыя перайманьня: Яшчэ 9 верасьня, да тэрміну на 6 дзён— з поўным выкананьнем пляну скончана сяўба азімых. Аднachасова калгас праводзіў і праводзіць бульбакапаньне. На сёнешні дзень уборка яе скончана. Робіцца пераворваньне.

У адказ на ліст Ленінградзкіх рабочых, калгас закончыў ужо поўнасьцю малацьбу, выдаў у лік 10—15 проц. авансы калгасьнікам і датэрмінова выканаў плян збожжазагатовак, здаўшы на загатоўчы пункт 25 цэнтнэраў збожжа.

Калгасьнікі і калгасьніцы добра разумеюць прынцып: „хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае“, яны рана выходзяць на работу і ў час работы значна перавыконваюць нормы выпрацоўкі па зьдзельшчыне.

Сакрэт гэтых посьпехаў хаваецца ў тым, што, калгасьнікі зацікаўлены ў рабоце, таму што праўленьне добра кіруе на падставе апошніх пастаноў партыі і ўраду, цалкам накіраваных на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу.

**Гэця Модлін.**

## Раўняцца па перадавых

*(Крупскі раён)*

У адказ на адозву Ленінградзкіх рабочых калгасьнікі калгасу „Пралетарская перамога“, Грыцкаўскага сельсавету, і „Усход“, Мала-Жаберыцкага сельсавету, датэрмінова закончылі асеньнюю сяўбу.

Сяўба праходзіла пад знакам змаганьня за ўздым ураджайнасьці сацыялістычных палёў. Поўнасьцю ачышчана насеньне, па ўсіх правілах агратэхнікі апрацавана глеба.

Калгасу „Усход“ па пляну трэба была засеяць 145 **га** азімага жыта, але калгасьнікі высунулі сустрэчны яшчэ 20 **га**, якія былі ў тэрмін засеяны.

У калгасах добра пастаўлена справа з сіласаваньнем. Зьбіраліся сьмяцьцёвыя травы, а таксама травы другога ўкосу для сіласнай масы. Засіласавана 110 тон зялёнай масы.

Ня меншую ўвагу гэтыя калгасы аддалі ільнаводзтву. Часткова ільну ўжо праведзена першапачатковая апрацоўка. 11 верасьня калгас „Пралетарская перамога“ арганізаваў чырвоны абоз ільнавалакном імя прызыву 1910 году нараджэньня.

Зараз усе брыгады калгасаў пераключыліся на зяблівае ворыва. Поўнасьцю ўзоранае поле на зіму — лепшы вузор барацьбы за ўздым ураджайнасьці.

Усе калгасы Крупшчыны павінны раўняцца па перадавых калгасах „Пралетарская перамога“ і „Усход“ у выкананьні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

**Р. Домінікаў.**

# Забясьпечыць высокі ўраджай першага году другой пяцігодкі

## Калгас „Чырвоны кастрычнік“ на лініі перадавых

*(Старобінскі раён)*

Адзін з лепшых калгасаў нашага раёну ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня, а таксама правядзеньня ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній—гэта калгас „Чырвоны кастрычнік“.

Калгас „Чырвоны кастрычнік“ — арганізаваўся ў 1930 годзе з 38 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Дзякуючы таму, што праўленьне калгасу сумесна з партячэйкай добра паставілі растлумачальную, а таксама гаспадарчую работу ўнутры самага калгасу,—калгас пачаў паступова расьці за лік беднякоў і серадмякоў з вакольных вёсак.

На сёнешні дзень калгас налічвае ў сябе 98 гаспадарак з агульнаю плошчаю ў 1000 га.

### Уборку правялі па-ўдарнаму

Да ўборачнай кампаніі, калгас распачаў падрыхтоўку яшчэ з вясны. Былі прыведзены ў гатоўнасьць усе неабходныя для ўборкі машыны і прылады. Кожнай брыгадзе была вызначана пэўная плошча з вызначаным тэрмінам выкананьня работы на кожным асобным вучастку.

Калгас першым у раёне скончыў уборку і раней вызначанага тэрміну на 5 дзён. Брыгады працавалі сапраўды па ўдарнаму, асабліва паказала бальшавіцкія тэмпы брыгада № 1. Яна першай скончыла сваё вытворчае заданьне па ўборцы і дапамагла суседняму калгасу „Прамень камуны“ Чэпалеўскага сельсавету.

Праводзілася барацьба са стратамі. Ля кожнай жняяркі былі прымацаваны зерняўлавіцелі, а таксама праводзілася падбіраньне каласоў пасьля жніва.

Усё зжатае збожжа была зьвезена пад страху ў гумны і пад навесы.

### У падарунак 15 Кастрычніку

Адначасова з малацьбаю, калгас наладзіў здачу дзяржаве лішкаў збожжа.

Жніўеньскі плян калгас перавыканаў: замест 6 тон, здадзена 7 тон, што складзе 105 проц. На агульным сходзе калгасьнікі абавязаліся хутчэй скончыць малацьбу і да 15 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі выканаць плян загатовак.

У падарунак 15-годзьдзя кастрычніка будзе арганізаван вялікі абоз з бульбай.

**К—ч.**

## Узараць на зіму 400 га

*(Жлобінскі раён)*

Адна з важнейшых задач, якая стаіць перад калгасамі і саўгасамі—гэта сваячасовае і поўнае сканчэньне ў вызначаныя тэрміны асеньняй сяўбы і ворыва на зяб.

У радзе калгасаў, дзе была правільна расстаўлена рабочая сіла, дзе вялося практычнае ажыцьцяўленьне шасьці гістарычных умоў т. Сталіна, сяўба і ворыва прайшлі пасьпяхова.

Асабліва дала вялікі зрух у правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній калгасамі і саўгасамі адозва ленінградзкіх рабочых. Калгасьнікі калгасу „Росквіт“, Жлобінскага раёну абмеркаваўшы адозву рабочых гораду Леніна абавязаліся:

— Скончыць у тэрмін сяўбу.

— Арганізаваць усе сілы калгасу на ворыва.

— Змагацца за добраякаснасьць апрацоўкі глебы.

— Працаваць у выхадныя дні.

Зараз-жа былі вылучаны брыгады на барацьбу за пасьпяховае сканчэньне сяўбы і зяблевага ворыва. Частка рабочых засталася працаваць на малацьбе, каб намалаціць жыта на пасеў, а таксама, згодна пастановы агульнага сходу калгасьнікаў, на здачу датэрмінова плянавых заданьняў збожжа.

На 10 верасьня, дзякуючы сапраўды бальшавіцкім тэмпам, якімі працавалі брыгады на асеньняй пасеўкампаніі, плян выканан поўнасьцю.

Першай скончыла свой плян па сяўбе брыгада № 2 т. **Серадова** і ўзяла на буксір брыгаду № 3 т. Афанасенкі.

Калгас „Чырвоная рудня“ ідзе таксама ў першых радох у Жлобінскім раёне па асеньняй сяўбе. На 20 верасьня плян выканан поўнасьцю Засеяна 254 **га** азімага жыта і 7 **га** пшаніцы. Асаблівую ролю адыграла ў сяўбе, паказаўшы бальшавіцкія тэмпы работы, гэта брыгада № 1, засеяўшы 150 **га**.

Зяблевае ворыва ў гэтых калгасах яшчэ праходзіць маруднымі тэмпамі. Ня ўсе брыгады пераключыліся на гэты важнейшы вучастак калгаснай вытворчасьці.

Калгас „Чырвоная рудня“ на 10 верасьня з патрэбных па пляну 400 **га** ўзараў толькі 40 **га**, што вядома зьяўляецца ненармальным зьявішчам.

Зараз неадкладнай задачай гэтых калгасаў, а таксама і ўсіх астатніх калгасаў Жлобінскага раёну зьяўляецца мабілізацыя ўсіх сіл на зяблевую ўспашку, выканаць свае абавязкі перад рабочымі гораду Леніна.

Да 15 гадавіны Кастрычніка ўсе калгасы і саўгасы павінны прысьці з поўным выкананьнем усіх плянавых заданьняў і яшчэ большым разгортваньнем работы па правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

**К. Г.**

# ЗАВАЯВАЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ ПЯРШЫНСТВА

**(Магілеўскі раён)**

Магілеўская машына-трактарная станцыя сапраўды зьявілася магутным вагаром сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. МТС у дзейнасьці сваёй работы сумела цесна спалучыць выкарыстаньне мэханічнай з цягавай сілай, дабілася таго, што ня было ніводнага бязьдзейнічаючага трактара. У выніку гэтага калгасы зоны МТС за апошні час ідуць у радах перадавых па выкананьні ўсіх сельскагаспадарчых кампаній. У наліччы МТС ёсьць 24 трактары. Заканчваецца абсталяваньне мэханічнай майстэрні.

Веснавую сяўбу калгасы, падпарадкаваныя МТС, правялі з поўным выкананьнем пляну, дабіўшыся павялічэньня пляну сяўбы ў параўнаньні з мінулым годам на 13 проц. Уборка азімых і яравых МТС праведзена таксама з посьпехам і ў тэрмін.

### Узятыя тэмпы множацца

Правільна арганізаваўшы працу, забясьпечыўшы бесьперабойную работу трактарнага парку ў полі, прымацаваўшы да ўсіх 4 вучасткаў разьяздных мэханікаў, трактары і трактарыстаў, усклаўшы адказнасьць за становішча вучастку на загадчыка. Калгасы МТС па баявому завяршылі асеньнюю сяўбу ураджаю першага году другой пяцігодкі.

Тэмпы сяўбы расьлі з гадзіны на гадзіну. Калі на 5 верасьня плян быў выканан на 33 проц., дык на 10 верасьня на 76 проц., на 15 верасьня—89,4 проц. і на 24 верасьня—100 проц. Засеяна 2 тыс. 258 **га** азімых.

Надзвычай добрыя прыклады ў барацьбе за якасьць, за тэмпы асеньняй сяўбы паказаў вытворчы вучастак № 3. 15 верасьня з посьпехам перавыканаў плян, засеяўшы замест 508—530 **га.**

### І ў збожжазагатоўках наперадзе

Кіраўнікі МТС цесна спалучылі справу выкананьня сяўбы з выкананьнем збожжазагатовак, збожжазагатоўкі арганізаваны. У выніку чаго гадавы плян па зоне МТС на 25 верасьня выканан больш чым на 70 проц.

Ёсьць паасобныя вытворчыя вучасткі, напрыклад, № 4, які ўжо выканаў плян на 93 проц.

Добрыя посьпехі ў збожжазагатоўках маюцца таму, што паміж вучасткамі разгорнута спаборніцтва. Вучастак № 1 спаборнічае з вучасткам № 2, вучастак № 3—з № 4. Арганізоўваліся не аднойчы чырвоныя абозы з хлебам.

Перадавікі бралі на буксір адстаючых. Скарыстоўваліся розныя мэтады агітацыі і прыватныя гутаркі і на сходах растлумачвалася важнасьць сваячасовага выкананьня збожжазагатовак.

### „Ніводнай бульбіны не пакідаць у баразьне“

Магілеўскі раён мае жывёлагадоўча-бульбяны напрамак. Таму і МТС сканцэнтравала ўсю сілу і энэргію на добраякасную, бясстратнай уборцы бульбы. Быў сваячасова складзен плян, які яшчэ 30 жніўня быў абгаворан на нарадзе старшынь калгасаў.

Кіраўнікі калгасаў мабілізавалі калгасьнікаў на гэтую баявую цэнтральную задачу дня. Па бальшавіцку выступілі калгасы МТС у бой за сацыялістычнае пяршынства.

Лёзунг аднаго з лепшых калгасаў МТС імя Карла Маркса, Дабрасьневіцкага сельсавету,—„ніводнай бульбіны не пакідаць у баразьне“—стаў уласнасьцю значнай часткі з налічваючыхся ў МТС 56 калгасаў. На 25-га верасьня з засеяных па зоне 1 тыс. 448 **га** бульбы, ужо ўбрана каля 550 **га.**

Сацыялістычныя мэтады працы—гарантыя перамогі. Яны высунулі Магілеўскую машына-трактарную станцыю ў рады перадавікоў.

Няма ніякага сумненьня ў тым, што калгасы МТС і ў далейшай сваёй барацьбе за арнізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў не здадуць заваёваныя пазыцыі,—пасьпяхова выканаюць усе сельскагаспадарчыя кампаніі.

Трактарыст Н—м.



Збор яблык у калгасе „Перамога“, Талачынскага раёна.

# Штурм ільняных барыкад

Нарыс П. ХАДАРЭНКА

Аўтамабіль-грузавік маланкай праляцеў па вуліцы мястэчка Лёзна і застанавіўся ля райвыканкомаўскага будынка.

— Апошняя партыя садзі-і-ся-а!—прагучэў голас дырэктара МТС тав. Селіванава.

Людзі заварушыліся каля машыны, забегалі. А праз хвіліну сядзелі ўжо ўсе на аўтамабілі. Загарэлыя, бадзёрыя, жыццярадасныя...



Расьсьцілка ільну ў калгасе імя 13-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі.

— Гатова!—крыкнуў хтосьці з грузавіка.

— Завадзі машыну!—пачуўся другі голас.

Матор загудзеў. Здрыгануў грузавік і, сарваўшыся з месца, аўтамабіль панёсься па вуліцы на другой скорасьці.

Загрымела звонкімі галасамі заўзятая песьня.

Наш паравоз ляці ўпярод,
У камуне астаноўка...

Асеньні вецер падхапіў бадзёры сьпеў, разьнёс яго недзе далёка, далёка па ваколіцы і, зьвярнуўшыся назад, пачаў кудлачыць валасы, лізаць загарэлыя твары людзей, што ехалі на аўтамабілі.

...Мы едзем у калгас „Маяк сацыялізму“. Настаўнікі і комсамольцы. Нас дзевяноста дзевяць чалавек. Едзем на ільняныя палі, на ліквідацыю прарыва.

Учора толькі ўвечары даведаліся, што калгас „Маяк сацыялізму“ адстае з уборкай ільну—прарыў. Гэтая напрыемная вестка маланкай абляцела камсамольскую ячэйку і настаўнікаў Лёзна. Абляцела і штурхнула кожнага на адну думку.

— Дапамагчы ліквідаваць прарыў!

І ўчорашняя думка—ператварылася сёньня ў рэальнасьць. Кожны настаўнік і камсамолец, як толькі пачала прабівацца з усходу чырвань, быў ужо каля райвыканкома—на месцы збору, прызначаным учора ўвечары.

... Едзем.

Звонкія галасы моладзі рассыпаюцца па ваколіцы, абуджаюць усё кругом.

— Я цябе, таварыш Міронаў, на сацспаборніцтва выклікаю—зьвініць голас смуглявай камсамолкі.

— Прымаю выклік,—чуцен адказ Міронава.

— А я цябе, таварыш Скрабава.

— Прымаю!..

А ў восем гадзін раніцы камсамольцы і настаўнікі атакавалі з усіх бакоў іляняное калгаснае поле. Кожны стараўся выканаць узятыя на сябе самаабавязацельствы. Падцягвалі адстаючых.

— Вышэй тэмпы!

— Ліквідаваць прарыў!

— Ня зьніжаць якасьці ўборкі!

І зьмяніла выгляд ілнянoе калгаснае поле. Раніцой было яно цёмна-жоўтае, шапталася сьпелымі галоўкамі, а ўвечары поле было застаўлена спрытнымі важкімі снапамі.

Мы едзем увечары полем дадому і любуемся сваёй працай. Мы ганарымся, што ўзялі ільняныя барыкады, што вывелі калгас з прарыву. Падводзім вынікі сваёй работы.

— Усяго выцерабілі 12,25 **га** ільну.

— Брыгада камсамолкі тав. Скрабавай заняла пяршынства. Гэтая брыгада мела ў сваім складзе 35 чалавек і выцерабіла **5 га.**

І таварыш Скрабава радуецца. З жыццярадаснай усьмешкай на твары яна зацягвае звонкім, пявучым голасам:

Наш паравоз ляці ўпярод,
У камуне астаноўка...

Дзесяткі такіх-жа звонкіх галасоў падхватваюць гэтыя словы. І расплываецца песьня па ваколіцы, абуджае ўсё кругом бадзёрымі пералівамі.

м. Лёзна.



Брыгада камсамолкі тав. Скрабавай заняла пяршынства.

# Уборка гародніны і барацьба з гнаіцелямі пры хаваньні

Большая частка гародніны асеньняй уборкі павінна пайсьці на захаваньне для паступовага выкарыстаньня яе ў пэрыяд да новага ўраджаю.

Гародніна мае вялізарнае значэньне ў бюджэце рабочага і значна паляпшае яго ежу.

Для таго, каб захаваць гародніну без вялікіх страт у пэрыяд зімняй лежкі, неабходна зьвярнуць асабліва сур'ёзную ўвагу на яе ўборку.

Перш за ўсё гародніна павінна ўбірацца своечасова і ў адносінах яе сьпеласьці і ў адносінах надвор'я. Дачасна зьнятая гародніна (нясьпелая) хутка загнівае. Уборка гародніны, як правіла, павінна праходзіць у сухое і ня вельмі цёплае надвор'е. Калі даводзіцца, з прычыны тых ці іншых абставін, убіраць гародніну ў сырое надвор'е, дык абавязкова трэба перад укладкай яе на хаваньне прасушыць і праветрыць. Калі-ж уборка ідзе ў сухое надвор'е, дык караньплоды не падлягаюць праветрываньню і прасушваньню, бо гэтае мерапрыемства выкліча залішняе зьвяданьне, а вялыя карані лёгка паддаюцца гніеньню.

Асноўная прычына гніеньня гародніны ў лежцы— неахайнасьць пры ўборцы і дастаўцы. Трэба цьвёрда памятаць, што мэханічна пашкоджаная гародніна хутчэй загніваецца.

Такія нязначныя пашкоджаньні як пашкоджаньне скуркі, пашкоджаньне вусянямі і іншымі шкоднікамі выклікаюць захворваньне гародніны. Таму неабходна вельмі асьцярожна абыходзіцца з гароднінай на працягу ўсяго шляху ад уборкі да закладкі яе на хаваньне.

Другім важным момантам пры ўборцы гародніны зьяўляецца акуратная абрэзка батвы. Абрэзка карашкоў, лісьцяў павінна ўтварацца вострым нажом без пашкоджаньня самой галоўкі караньплода.

Перад укладкай на хаваньне неабходна ўтвараць старанную сартыроўку матар'ялу. На хаваньне павінна ісьці толькі зусім здаровая гародніна. Уся гародніна з нязначнымі прызнакамі загніваньня, невялікімі пашкоджаньнямі, у лежку ісьці не павінна.

Калі сама хавальня задавальняе ўмовам тэмпэратуры і вільготнасьці, дык захоўваючы ўсе гэтыя перасьцярогі, магчыма захаваць атрыманы ўраджай на працягу ўсяго пэрыяду хаваньня.

**Е. Асьнецкая.**

# Корм для аслабеўшых коняй

**(З асабістай вэтэрынарнай практыкі)**

Ведаць, як паставіць на ногі каня, аслабеўшага з прычыны хваробы ці празьмернай работы, неабходна кожнаму конюху, кожнаму брыгадзіру калгаса і кожнаму аднаасобніку.

**Рэкамэндую:** Узяць 2 **кг** зьмельчанага аўса, дабавіць 1 **кг** вотрубяў, адзін невялікі стакан разьмельчанага ільнянога насеньня і ½ сталовай лыжкі солі. Добра перамешаць і падліваць вар.

Трэба паклапаціцца, каб сумесь астывала ня вельмі хутка, а прыкладна ў працягу 4-х гадзін.

Ваду падліваць да тэй пары, пакуль яна паглынаецца сумесьсю. Пасьля абліваньня добра перамешваць. Трэба ўсё гэта прыгатаўляць у чыстай драўлянай пасудзіне.

Больш указанай колькасьці у дзень на 1 каня даваць нельга. Канечне, пры гэтым належыць даваць каню і звычайны корм.

Коням, маючым слабыя зубы, гэты корм даваць таксама карысна. Сумесь загатаўляць ў запас ня трэба, яна павінна быць заўсёды сьвежая.

Паказаную сумесь жывёла есьць вельмі ахвотна і папраўляецца вельмі хутка.

Вэтурач **Ф. Шчепэтаў.**



Новапабудаваная ШКМ у калгасе „Савецкая Беларусь", Лепельскага раёна.

# Змагацца за павышэньне прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі

## Дзяржаўныя племянныя кнігі чырвона-беларускай і шведзкай парод жывёлы ў БССР

Усім добра вядома, што адным з найбольш лёгкіх і хуткіх спосабаў падвышэньня прадукцыйных якасьцяй сельскагаспадарчай жывёлы будзе правільнае рацыянальнае кармленьне. Але гэты спосаб дае значныя вынікі толькі ў тым выпадку, калі мы маем справу з раней недакармліваемай жывёлай.

Павялічваючы дачу сыр'я ў выглядзе кармоў, даводзячы яе да некаторай сталай велічыні (нормы), мы тым самым будзем павялічваць прадукцыйнасьць жывёлы. Але ідучы па гэтым шляху, мы хутка ўпрэмся ў некаторы пункт, далей якога павялічваць кармовую дачу жывёлы ня будзе ўжо ніякага сэнсу. Карова ня будзе рэагаваць на новыя прыбаўкі, бо мы пры гэтым падыйшлі да такога максымуму ўдойлівасьці, які абумоўліваецца фізыолёгічнымі асаблівасьцямі каровы (характар пабудовы вымені, экстэр'ер, інтэр'ер жывёлы і г. д.).

Выплывае на чаргу дня новае пытаньне—пытаньне карэннай рэканструкцыі і перабудовы гэтай жывой фабрыкі. Гэта рэканструкцыя можа быць праведзена пры дапамозе правядзеньня рада мерапрыемстваў сэлекцыйна-племяннога характару. Пры гэтым трэба памятаць і тое, што правядзеньне гэтых мерапрыемстваў звычайна зьвязана з вялікай тратай як грошай, так і часу. Таму і нядарма, некаторыя называюць племянную справу цяжкай індустрыяй жывёлагадоўлі. Адсюль зусім зразумелым будзе і той вывад, што да племяннай работы мы павінны прыступіць як мага хутчэй.

Уся племработа павінна быць пабудавана ў поўным кантакце з дасьледчай работай.

Першымі крокамі ў гэтым напрамку неабходна лічыць работу па выяўленьні ўсяго таго матар'ялу, з якім у далейшым можна будзе разгарнуць племянную работу. Паглыбленая генэтыка-сэлекцыйнае вывучэньне масава-рэгістрыруемага племматар'ялу і дасьць усе тыя дадзеныя, якія будуць пакладзены, як грунтоўная база, пад плянавае разгортваньне племяннай справы і мэтадалёгічнае кіраўніцтва ўсёй племяннай работай. У кожнай сацыялістычнай гаспадарцы (саўгас, калгас) заводзяцца, так званыя, вытворчыя і племянныя запісы-кнігі, на грунце якіх вядзецца работа па выяўленьні ўсёй лепшай племяннай жывёлы.

Для БССР гэта справа новая. За межамі Саюзу племянныя кнігі існуюць ужо даўно і адыгрываюць вялікую ролю ў палепшаньні жывёлы замежных парод. У былой Расіі да рэвалюцыі існавала некалькі такіх кніг (кніга Прыбалтыцкага краю, Курская, Харкаўская і г. д.), але гэта былі першыя крокі ў гэтым напрамку. Шмат племянных кніг было арганізавана ў пасьлярэвалюцыйны пэрыяд у РСФСР (ДПК шведзкай жывёлы, яраслаўскай, сімэнтальскай і г. д.) і ў УССР—чырвона-нямецкай пароды, калёнісцкай белагаловай і інш.

БССР толькі з гэтага году прыступае да гэтай работы, адчыняючы пры Горацкай Занальнай станцыі малочнай гаспадаркі племянныя кнігі чырвона-беларускай і шведзкай жывёлы. Кнігі ўжо прыступілі да работы. Племянныя кнігі шведзкай жывёлы абсьледвалі тры саўгасы і тры калгасы (выяўлена і занесена ў племянную кнігу 111 кароў, 6 вытворнікаў і 73 маладняка) і племянныя кнігі чырвона-беларускай жывёлы абсьледван адзін саўгас (занесена ў ДПК 28 кароў і 4 вытворніка).

Мэта племянных кніг: „рэгістрацыя ў саўгасах і калгасах найбольш прадукцыйнай і адпавядаючай племянным мэтам жывёлы і плянамернае і рацыянальнае скарыстаньне яе для якаснага палепшаньня стад саўгасаў і калгасаў".

Аб'ём працы племянных кніг, згодна палажэньня аб іх, будзе такі:

Рэгістрацыя ўсёй племяннай буйнай рагатай жывёлы саўгасаў і калгасаў, якая будзе здавальняць тым запатрабаваньням, што высоўваюцца для той ці іншай пароды. Вядзеньне папярэдняй кнігі маладняка. Распрацоўка атрыманых дадзеных з мэтай выяўленьня найбольш каштоўных у племянных адносінах ліній, сем'яў і паасобнай жывёлы.

Параўнальная ацэнка якасьці сэлекцыйна-племяннай работы племсаўгасаў і племкалгасаў.

У племянныя кнігі заносяцца каровы малочных парод, у адносінах якіх маюцца афіцыйныя правераныя даныя па малочнай прадукцыі ня менш як адзін лактацыйны пэрыяд (за 300 дзён лактацыі, альбо за фактычную лактацыю, калі яна менш 200 дзён). У тых выпадках, калі прадукцыйнасьць жывёлы ня выяўлена, але ёсьць даныя, якія сьведчаць аб яе высокай прадукцыйнасьці, карова заносіцца ў папярэднюю кнігу. Вытворнікі бяруцца на вучот ва ўзросьце не маладзей 12 месяцаў, пры ўмове, што яны здавольняць аднаму з наступных запатрабаваньняў:

Паходжаньне ад матак, занесеных у племянныя кнігі, якія маюць ня менш 10 дочак, занесеных у племянныя кнігі.

Паходжаньне ад матак, калі і незанесеных у племянныя кнігі, але якія маглі быць занесенымі, як здавальняючыя стандарту.

Маладняк заносіцца ў кнігу пры ўмове, што з гэтага маладняка ў далейшым можна чакаць карову, адпавядаючую запатрабаваньням племяннай кнігі.

Уся імпартная жывёла плянавых парод заносіцца ў племянныя кнігі незалежна ад яе стандартных паказчыкаў.

Выяўленьне жывёлы вядзецца шляхам аб'езду саўгасаў і калгасаў племінспэктурай племянных кніг.

Племянныя кнігі—адно з адказьнейшых мерапрыемстваў у палепшаньні нашай жывёлы і патрабуюць асаблівай чуткасьці і ўвагі з боку калгасьнікаў і саўгасьнікаў.

**А. Сяргееў.**

# Ад чаго залежыць у кароў павышэньне і зьмяншэньне ўдояў малака

Патрэбнасьць у павялічэньні ўдояў зьяўляецца неадкладнай задачай сацыялістычных малочных гаспадарак, ад вырашэньня якой будзе залежыць паляпшэньне харчаваньня рабочае клясы і ўсяго працоўнага насельніцтва.

У аснове вырашэньня задачы павышэньня ўдояў трэба пакласьці 6 гістарычных умоў тав. Сталіна па палепшаньні і догляду і правільнай расстаноўкі рабсілы на МТФ.

У павышэньні ўдояў мае вялікае значэньне паляпшэньне якасьці малочнай каровы. Справу паляпшэньня каровы могуць вырашыць толькі буйныя сацыялістычныя гаспадаркі, чаго нельга было зрабіць ва ўмовах дробнай сялянскай гаспадаркі.

Шлях да палепшаньня жывёлы—гэта мэтызацыя мясцовых парод вытворнікамі племянных парод.

Па заданьні партыі і ўраду ў 1932 г. саўгасы трэстаў павінны правесьці мэтызацыю ўсяго стада на 50 проц. і калгасы МКТФ ня менш як на 30 проц.

Калі ў каровы маюцца ўсе задаткі даваць шмат малака, патрэбна скарыстаць гэтыя задаткі шляхам кармленьня, утрыманьня і догляду.

Перад тым, каб прыступіць да належнага кармленьня кароў саўгасу, калгасу, патрэбна забясьпечыць стада разнастайнымі добраякаснымі кармамі і вадою ў дастатковай колькасьці.

Толькі пры наяўнасьці ўсяго гэтага справу кармленьня можна паставіць так, што каровы значна павысяць удоі малака. Павышэньне ўдою залежыць ад уменьня і жаданьня абслугоўваючага пэрсанала наладзіць нормаванае і сталае кармленьне жывёлы.

Да гэтага часу ў большасьці саўгасаў і калгасаў кармленьне кароў утвараецца не па нормам, ня гледзячы на тое, што ледзь ня ў кожным саўгасе ёсьць жывёлавод, а ў некаторых і зоатэхнік. Такія адносіны можна разглядаць на інакш, як нежаданьнем некаторых з гэтых работнікаў сур'ёзна падыйсьці да выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў.

Кармленьне па нормах магчыма прымяніць ва ўсіх калгасах і МТФ.

Праўда ў калгасах адчуваецца недахоп зоатэхнічнага пэрсаналу, але ўсё-ж такі, пры наліччы прыкладных норм складзенных зоатэхнікам райкалгассаюзу, або суседняга саўгасу, магчыма наладзіць кармленьне па нормах.

Кармленьне не па нормах, а на „вока" спрыяе парушэньню кармавога балянсу, а таксама паступоваму зьмяншэньню ўдою малака.

На павялічэньне ўдою мае ўплыў кармленьне спажыўна багатымі і смачнымі кармамі з дабаўкай паваранай солі і добраякаснай вады. Ні ў якім разе нельга даваць карове загніўшы, прэлы корм, кепскую ваду. Ад такіх кармоў і вады жывёла можа набыць толькі хваробу і зьнізіць удой. Велічыня ўдою залежыць ад ужываньня жывёлай корму, багатага вітамінамі, якія маюцца ў бабовым сене і зялёных частках маладых расьлін. Наліччa ў рацыёне дастатковай колькасьці бялковых матэрый спрыяе павышэньню ўдою на 15 і больш проц. Прадукцыйнусьць малочнай жывёлы павялічваецца за год на 50 проц. і вышэй, калі ў кармавой дачы будуць караньплоды, сілас і канцэнтраваныя кармы.

Колькасная перамена рацыёну можа значна павысіць удой. У гэтым выпадку патрэбна будзе павялічваць рацыён, мяшаць адзін зорм з другім і так рабіць да таго часу пакуль рацыён стане выпрацаваным, а ня вылічаным.

У выпадку, калі будзе заўважана паніжэньне ўдою можна затрымаць яго на ранейшай высаце шляхам якаснай перамены рацыёну, а магчыма і павялічыць рацыён, улічваючы карыснасьць ад такой апэрацыі ад аднаго корму да другога.

Ад дачы карове корму звыш той нормы, якая патрэбна, удой павялічваецца, асабліва ў першую палову лактацыі, Карова, якая атрымоўвае ваду ў патрэбнай для яе колькасьці, малака дае больш, чымся тая карова, якая атрымлівае ваду заўжды ў вызначаны час. Найлепшая тэмпэратура вады 13—15 Ц. У кармавы рацыён павінна ўваходзіць соль, якую патрэбна даваць у дзень 50 грам на 100 кг жывой вагі і звыш паказанай колькасьці па 2 грамы на адзін кг атрыманага малака. Калі солі не даваць, пачне траціцца апэтыт у каровы і зьніжаюцца ўдоі. Па прычыне адсутнічаньня ў рацыёне мінэральнага спажываньня—фосфара і кальцыя каровы зьмяншаюць удой, а пагэтаму патрэбна даваць у рацыёне бабовае сена, багатае кальцыем, макуху і вотрубі багатыя фосфарнай кіслатой.

Прафэсар Папоў раіць ва ўсёй кармавой дачы добрай дойнай карове даваць 200 грам вапны і 150 грам фосфарнай кіслаты з разьліку на 1.000 кг жывой вагі.

Аднак, не патрэбна дапушчаць пераходу да кармленьня аднымі сухімі кармамі. Трэба ўжыць усе захады, каб кармоў на зіму было ў дастатковай колькасьці, як сакавітых, так і моцных.

На велічыню ўдою мае ўплыў працэс даеньня і масаж вымені. Даеньне павінна ўтварацца хутка і начыста. Пры масажу вымені малочныя залозы выдзяляюць малака больш. Масаж вымені прымушае



Калгасьнікі калгаса „Чырвоны Бераг", Аршанскага раёна атрымліваюць малако пасьля адпраўкі належнай колькасьці ў горад.

кароў аддаць усё малако, не затрымліваць яго. Ад неакуратнага выдвойваньня каровы, малако, якое застаецца ў вымені ствaражваецца, закупрывае малочныя тонкія канапальцы, ад чаго закупрываецца частка залозак і залоза перастае працаваць.

У далейшым ад недадайваньня закупрываецца яшчэ больш залозак і карова зьмяншае ўдой. У выніку ўсяго гэтага вымя цьвярдзее, атрымліваецца запаленьне і калі карова выздаравее, яна потым ня доіцца на адну ці некалькі цыцок. Карова, хварэўшая на запаленьне вымені, дае малака на 25 проц. менш, чымся яна давала яго да часу хваробы. Ад колькасці доек на працягу дня і чыстаты выдайваньня ўдоі могуць павялічвацца ці зьмяншацца. Устаноўлена, што пры двухразовым няпоўным выдойваньні і трохразовым поўным, розьніца даходзіла да 1,80 **кг** на карову ў дзень.

Такім чынам, карову трэба даіць тры разы, калі яна дае ўдзень ня менш 10 **кг** малака і два разы, калі яна дае з новацёлу ўдзень менш паказанай колькасьці.

Перамена даілак зьмяншае ўдоі малака. Замацаваньне на рабоце па догляду за каровамі асобных работнікаў на ўвесь год спрыяе павышэньне якасьці догляду і вытворчасьці працы, а адсюль і павышэньню ўдою кароў. Досьледы паказваюць, што ад утрыманьня ў чыстаце скуры каровы, павялічваецца малака ў дзень прыблізна на адзін літар. Патрэбна чысьціць кароў, купаць іх, толькі каб тэмпэратура вады ня была ніжэй 18° Ц, пры чым, у вадзе жывёла можа заставацца 10—12 хвілін. Спацеўшую жывёлу адразу купаць ня трэба. Стрыжка мае ўплыў на малочную прадукцыйнасьць кароў, пры ўмовах, калі каровы будуць добра кармiцца і знаходзіцца ў аборы з адпаведнай тэмпэратурай. Каровы зьмяншаюць удоі, калі іх утрымоўваюць у халодным брудным памяшканьні, дзе няма падсьцілу ў дадатак памяшканьне перапоўнена жывёлай. Саўгасам і калгасам трэба да часу стойлавага ўтрыманьня адпаведна падрыхтаваць памяшканьні, прыстасаўшы іх да зімовага ўтрыманьня кароў. Досьледы правядзеньня на Бутырскім хутары пад Масквой паказалі, што ў халоднай аборы каровы зьмяншаюць удой на 6—12 проц. Падзеньне ўдояў выклікае дажджлівае паветра, жара, турботы жывёлы казюлькамі, хваляваньне, вялікія пераходы.

Узрост каровы мае значэньне ў павялічэньні ўдояў. Найбольш малака каровы даюць на 5—6 ацеле, бываюць асобныя экзэмпляры, якія да 14—15 ацёлу захоўваюць высокі ўдой. Цяжарнасьць каровы мае ўплыў на ўдойлівасьць, бо чым далей карова не пакрываецца пасьля ацёлу, тым больш яна дае малака. Карову лепш пакрываць не раней 20 дзён пасьля ацёлу і не пазьней як праз 100 дзён.



Размнажэньне гатунковай моркаўкі.



Племянныя сьвінаматкі саўгаса „Блонь", Пухавіцкага раёна.

На малочную прадукцыйнасьць мае ўплыў час ацёлу каровы, што зьвязана з умовамі карміленьня, асабліва ў першы пэрыяд лактацыі.

Саўгасы і калгасы павінны забясьпечыць стада на пэрыяд ацёлу і пэрыяд найбольшай удойлівасьці кароў дастатковай колькасьцю моцных і сакавітых кармоў.

Найлепшым пэрыядам для новацеляй зьяўляецца пасьбішчны. Удой зьніжаецца калі карова мела выкідыш раней 8-мі месяцаў пасьля пачатку цяжарнасьці.

Велічыня гадавога ўдою каровы залежыць ад павялічэньня малака адразу пасьля ацёлу і зьвязанага з гэтым максымальнага ўдою і ад ступені зьмяншэньня ўдою пасьля атрыманьня найбольшай колькасьці малака. Калі падзеньне малака ідзе паволі, тым больш яго будзе надоена за лактацыйны пэрыяд і наадварот.

Знойдзена, што каровы пры вясеньнім і зімовым ацёле даюць больш малака, чым пры ацёле ў канцы вясны і лета.

Моцнае карміленьне цяжярнай каровы робіць яе тлустай, а пасьля ацёлу мала малочнай, каб ня было такога зьявішча, перад ацёлам, прыблізна за дзён дзесяць не даваць моцных кармоў і карміць у меру.

Мацыён і сьвежае паветра спрыяе здароўю каровы і павышае ўдой. Гэта таксама была дасьледвана вучонымі пры чым, 80 кароў на працягу 10 дзён не карысталіся прагуламі, пасьля чаго 10 дзён карысталіся штодня па тры гадзіны (ад 12 да 3 гадзін дня). Вынікі досьледу—у апошнім выпадку 80 кароў прыбавілі малака за паказаны час на 45,8 **кг**.

Павышэньне ўдою кароў будзе залежыць ад рацыянальнага скарыстоўваньня кармоў у гаспадарцы.

Высата і раўнамернасьць удою залежаць ад добрых адносін работніка да каровы. Трэба карову ня біць, даваць ёй спакой, ня трывожыць, калі ў гэтым няма патрэбы.

У заключэньне неабходна сказаць, што высокія ўдоі залежаць ад умелага кіраўніцтва вытворчым жыцьцём саўгаса, калгаса, вынікам правільнай арганізацыі працы, ударнай работы рабочых саўгасаў і калгасьнікаў, вынікам бальшавіцкай барацьбы за якасныя паказчыкі ў жывёлагадоўлі.

**А. С.**

# УБОРКА І ЗАХАВАНЬНЕ НАСЕНЬНІКАЎ ГАРОДНЫХ КУЛЬТУР

Час пасьпяваньня караньплодаў азначаецца пажаўценьнем лісьця і прыляганьнем сьцяблоў да зямлі. У гэты прыблізна пэрыяд і трэба пачынаць уборку караньплодаў. У некаторых гаспадарках яшчэ ў сучасны момант практыкуецца абрываньне значнай часткі лісьця для корму жывёлы, што зьніжае процант накапленьня спажыўнай матэры ў караньплодах і гэтым самым значна зьніжае ураджайнасьць. Таму неабходна, каб батва заставалася ў караньплодаў як мага далей і зразаць яе магчыма не раней 2—3 дзён да ўборкі караньплодаў.

Уборку насеньнікаў караньплодаў у нашых умовах трэба пачынаць з паловы верасьня ў залежнасьці ад надвор'я і раёну. Часта ў гаспадарцы высеяна некалькі відаў караньплодаў і ўзьнікае пытаньне, якія з іх раней трэба прыбіраць. Па дасьледчым назіраньні і практыцы ўстаноўлена, што ў першую чаргу трэба ўбіраць буракі, якія вельмі псуюцца ад замаразкаў.

Найбольш чулымі да замаразкаў зьяўляюцца сарты караньплодаў з выдаючайся галоўкай над паверхняй зямлі, таму іх трэба ўбіраць у першую чаргу. Другія і моцна сядзячыя сарты ў зямлі выбіраюцца спэцыяльнымі бурачнымі пад'ёмнікамі коннай ці трактарнай цягай. Пры адсутнасьці спэцыяльных машын караньплоды падкапваюцца лапатамі, віламі, а сарты, якія выдаюцца з зямлі, вырываюцца проста рукамі.

Выцягнутыя з зямлі караньплоды абтрэсваюцца ад зямлі (пры чыстцы карані ня трэба біць адзін аб другі і скрэбці нажом). Пасьля гэтага абразаецца бацьвіньне, бо праз бацьвіньне выпараецца ўнутраная вільгаць, якую трэба захоўваць. Пры абрэзцы бацьвіньне неабходна пакідаць кончыкі лісьцяў на 1—1,5 см вышэй галоўкі. Гэта робіцца для таго, каб не пашкодзіць паверхавыя пупышкі. Абрэзанае бацьвіньне можа ісьці для сіласу. Для насенных мэт адбіраецца сярэдніх памераў караньплоды, а буйныя і дробныя адкідаюць і захоўваюць асобна.

Адабраныя і абрэзаныя насеньнікі складваюцца ў кашы альбо скрынкі і перавозяцца да месца хаваньня. Пры ўборцы і перавозцы насеньнікаў трэба дбайна адносіцца да іх, бо месцы пашкоджаньняў хутка пачынаюць загніваць.

Пры захаваньні на зімоўку вельмі шкодна складваць караньплоды вільготнымі.

Уборка капусты ідзе зараз-жа пасьля ўборкі караньплодаў. Для таго, каб насеньнікі капусты менш абіваліся і псаваліся, яе перавозяць да месца захаваньня з лісьцем. Насеньнікі ўсіх раньніх сартоў абавязкова трэба астаўляць поўным качаном, сярэднія, асабліва позьнія можна і качарыгай з павярховай пупышкай. Качарыгі і качаны прасушваюцца ад надворнай вільгаці, а потым захоўваюцца. Усе двухгадовыя культуры патрабуюць захаваньня на працягу зімы, пры гэтым важна захаваць насеньнікі ня толькі ў здаровым выглядзе, а захаваць галоўным чынам у іх почкі, якія павінны даць кветковае сьцябло. Захаваньне насеньнікаў магчыма праводзіць у спэцыяльных хавальніках — падвалах, а таксама ў буртох. Кожны падвал яшчэ вясной трэба ачысьціць ад рэштках сьмецьця, пабяліць вапнай сьцены, слупы, а перад укладкай трэба правесьці дэзынфэкцыю. Для гэтага зачыняюцца вокны, замазваюцца ўсе шчыліны, бярэцца серка з разьліку 20 грам на 1 кб. м і спальваецца. Пасьля гэтага падвал зачыняецца на цэлыя суткі, а потым, праветрыўшы яго, можна закладваць насеньнікі.

Буракі, рэдзька закладваюцца ў закрамы навалам ня вышэй мэтра ў вышыню. Морква, пятрушка, як больш кволая гародніна кладзецца радкамі ў штабелі. Кожны рад перасыпаецца пяском. Штабелі робяць у шырыню 0,75—1 м, у вышыню дробныя караньплоды на 0,5 м, а буйныя—0,8—1 м.

Капуста захоўваецца ў падвалах, як качаном, так і качарыгай. Качаны звычайна раскладваюцца на рашотчатых полках, якія будуюцца праз 0,5 мэтра з тым разьлікам, каб корань верхавой не датыкаўся да ніжняй. Качарыгі трэба ставіць альбо класьці штабелямі вышынёй у 0,5 см карэньнямі ўрозь. Карані перасыпаюцца пяском.

Пасьля ўкладкі ў падвале трэба весьці назіраньне за тэмпэратурай і вільгацьцю. Самай добрай тэмпэратурай для караньплодаў трэба лічыць ад $+1, +3^\circ$, капусты $0, +2^\circ$. Таму караньплоды сумесна з капустай захоўваць нельга.

Пры захаваньні насеньнікаў у траншэях і ямах трэба ўлічваць грунт глебы. Найлепшымі грунтамі для захаваньня насеньнікаў будзе лёгкі суглінак і адсутнасьць блізкасьці грунтовай вады. Месца для бурта трэба выбіраць роўнае, па магчымасьці, захаванае ад паўночных вятроў.

Траншэі капаюцца за некалькі дзён да загрузкі з тым, каб яма магла ахладзіцца. Памер ям і траншэй робіцца ў залежнасьці ад колькасьці і культуры насеньнікаў.

Перад укладкай дно ямы трэба ўзварушыць на 10—15 см, альбо на дно ямы насыпаць слой пяску. Загрузку зручней весьці адразу з двух канцоў.

Пасьля загрузкі бурты засыпаюцца на 15—20 см зямлёй, а з наступленьнем замарозкаў падсыпаць у залежнасьці ад тэмпэратуры. Урэгуляваньне тэмпэратуры праводзіцца шляхам пакрываньня паверх саломай, або драўнінным лістом на 25—35 см і пасыпкай зямлі ня менш 50 см.

Неабходна сачыць, каб не ўтвараліся трэшчыны ці мышыныя норкі, якія зараз-жа засыпаць сьвежай зямлёй.

Вакол бурта неабходна зрабіць невялікую канаўку для сьцёку вады. Насеньнікі капусты магчыма захоўваць і ў пустых парніковых скрынках абсыпаных пяском.

**Т. Трафімава.**

---

**У адказ на адозву ленінградзкіх рабочых — узмацнім работу па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў!**

# Вадзяныя арэхі—на корм

У адным з нумароў часопісі „Шляхі калектывізацыі" мы ўжо пісалі аб тым, што трэба максымальна выкарыстаць на корм некаторыя расьліннасьці нашых балот, вазёр і рэк. Тады мы адзначалі, што вельмі каштоўны корм можна прыгатаваць з такіх расьлін, як „Цэларэз Сабуравідны" і „Белакрыльнік балотны".

У гэтым артыкуле мы застановімся на адной з такіх расьлін—на так званых вадзяных арэхах.

Працуючы каля Бранску мне не адзін раз прыходзілася чуць ад сялян пра скарыстаньне імі „вадзяных арэхаў" на корм для жывёлы. У свой час гэтай расьлінай зацікавіўся быў прафэсар Хітраво, які даволі падрабязна вывучыў яе і прысьвяціў ёй асабістую манаграфію. Некаторыя называюць гэтую расьліну „Чортаў арэх", „Рагульскі", „Чылім".

На Браншчыне ёсьць вазёры, якія проста зарасьлі гэтай расьлінай. К ліку такіх вазёр належыць, напрыклад, так званае Арэхавае возера, на якім сяляне штогодна зьбіраюць дзесяткі тысяч кілёграм арэха.

Прафэсар Хітраво адзначае і другое значэньне гэтай расьліны. Зарасьлі гэтай расьліны перашкаджаюць вылаўліваць рыбу ў гэтым возеры і ўтвараюць добры выхавальнік для апошняй у павярхоўняй плыні Дзясны.

Цікавыя плады вадзянога арэха. Ён мае чатыры сыстэматычна зьмешчаныя рагулькі і некалькі нагадвае сабою тую фігурку, што лепяць дзеці з хлебу і якая не мяняе сваёй формы, калі яе кідаюць аб падлогу.

Ядра арэхаў даюць вельмі добры крухмал. Размолатыя на муку арэхі даюць муку, якая ідзе на выпечку рознага віда пячэньняў.

Праф. Маеўскі („Флора Средней России") указвае нават на тое, што ў тых мясцовасьцях, дзе вадзяны арэх распаўсюджаны, ён складае прадмет гандлю, як народныя прысмакі.



Расьліна вадзянога арэха.

У галодныя гады вадзяны арэх, па сьцьвярджэньню Флёрава вызваліў шмат народу ад галоднай сьмерці. У свой час гэтая расьліна вывучалася ў Швэйцарыі. Вывучаньне гэтай расьліны ішло там у сувязі з вывучэньнем астаткаў свайных пабудоў, жыхары якіх раней, як відаць, і карысталіся гэтай расьлінай у даволі значных памерах.

Некаторыя вучоныя (І. А. Клінін—„Среди патриотов") указваюць на гэтую расьліну, як на адну з першых, якую чалавек пачаў культывізаваць. У Індыі і да гэтага часу мясцовае насельніцтва разводзіць штучны вадзяны арэх.

Сустракаецца вадзяны арэх і ў нас на Беларусі. Н. Зьбіткоўскім вадзяны арэх знойдзен на Мазыршчыне ў Лельчацкім раёне (р. Уборць каля х. Вясьліннае) і на Гомельшчыне (р. Іпуць у межах Шабрынскага лясьніцтва, в. Чонкі ў Старыцах р. Сож і ў в. Карнейка—чыгуначная плацформа на поўдзень ад Гомелю ў Сажалцы).

Адамаў В. В. і Ярашэвіч Н. К. („Обзор растительности Белорусского Полесья") піша аб тым, што вядзяны арэх сустракаецца ў некаторых вазёрах Мазыршчыны. Ёсьць зьвесткі аб тым, што вадзяны арэх расьце і ў возеры Князь.

На паўночнай частцы БССР вадзяны арэх пакуль што не адзначан, але рабіць адсюль той вывад, што яго там няма—нельга, бо вадзяны арэх знаходзілі яшчэ значна раней далей на поўнач (каля Якабштаду).

Нам здаецца, што вадзяны арэх належыць да тэй групы расьлін, якія мажліва і патрэбна як мага хутчэй скарыстаць.

З гэтай мэтай вадзяны арэх неабходна ўсебакова вывучыць. Мажліва, што, пасьля гэтага прыдзецца гаварыць аб гэтай расьліне, як аб новай культуры, з дапамогай якой можна будзе больш разумна і мэтазгодна скарыстоўваць нашы вадаёмы.

Расьце вадзяны арэх у стаячай альбо павольна бягучай вадзе. Цьвіце з паловы лета і да восені невялічкімі белымі кветкамі, якія ўвечары звычайна апускаюцца ў ваду. Мае разэтку ромбавіднага лісьця з уздутымі афарбованымі ў чырвоны колер чарачкамі. Трымаецца за дно дзякуючы рагулькам арэха, які застаецца пры той расьліне, якая вырастае з яго.

Калгасы і саўгасы павінны зьвярнуць увагу на гэтую расьліну, арганізуючы збор арэхаў, там, дзе яна расьце.

Цікава было-б зрабіць некалькі спроб штучнага абсемяненьня некаторых вазёр гэтай расьлінай і праверыць наколькі гэта будзе рэнтабельна.

А. М. Сяргееў.

# СІЛАСАВАНЬНЕ БУЛЬБЫ

Сіласаваньне бульбы больш мэтазгодна вытвараць выключна ў ямах і траншэях. Для рыцьця ям і траншэй выбраць найбольш высокія месцы з натуральным сьцёкам дажджавой і сьнегавой вады і па магчымасьці з шчыльным грунтам. Адлегласьць паміж суседнімі траншэямі павінна быць ня менш падвойнай глыбіні. Сьцены траншэй, каб ухіліцца абвальваньня павінны быць нахільнымі, для чаго шырыня траншэі уверху павінна быць 3,5 мэтры, у нізе—2,5 у глыбіню 2,5 мэтры і ў даўжыню ў залежнасьці ад патрэбнасьці, але ня больш 30 мэтраў, маючы, на ўвазе, што ў адным кубамэтры сіласаванай бульбы зьмяшчаецца да 13 **цнт**. Узровень грунтовых вод павінен быць ня менш 0,5 мэтра ніжэй дна траншэі.

Сьцены траншэй, якія вырыты ў шчыльных гліністых грунтах, можна не абліцоўваць пры сіласаваньні варанай бульбы, а пры сіласаваньні сырой бульбы абліцоўваць абвязкова пры ўсякіх грунтах.

У неабліцованых траншэях па верху ўкладваюцца два вянцы бярвеньняў ці што небудзь іншае з мясцовых матар'ялаў, каб сьцены не асыпаліся.

Бульбу перад сіласаваньнем неабходна мыць, таму што глебавыя бактэрыі, унесеныя ў сілас з зямлёй, якая прыстала да клубняў, даюць непажаданы напрамак бражэньню бульбы, у выніку чаго апошняя псуецца. Акрамя таго вялікая колькасьць гразі можа выклікаць хваробу стаўніка жывёлы.

Сіласаваньне бульбы можна вытвараць як у сырым, так і ў запараным выглядзе. На сіласаваньне ў сырым выглядзе бульба адбіраецца выключна здаровая.

Адабраная сырая бульба пасьля дасканалай прамыўкі падрабняецца на корнярэзках ці сіласарэзках, а пры адсутнасьці іх падрабненьне вытвараецца звычайнымі жалезнымі рыдлёўкамі пры трамбоўцы.

Прарэзаная бульба ўкладваецца ў сілос слаямі і добра ўшчыльняецца, асабліва каля сьцен. Пры гэтым выдзяляецца значная колькасьць соку, які запаўняе ўсе шчыліны паміж зрэзанай бульбай і такім чынам зусім выціскае паветра.

Пры сіласаваньні кепска зрэзанай бульбы, а таксама правялёнай у мэтах хутчэйшага выдзяленьня соку, мэтазгодна дабаўляць да бульбы 0,5 проц. звычайнай солі ад вагі бульбы, якая дзейнічае як сокавыцягваючы сродак і садзейнічае хутчэйшаму запаўненьню прамежкаў у сіласаванай бульбе.

Зьверху сілос задзелваецца сухой саломенай сечкай ці мякінай таўшчынёй у 50 **см** для ўпітваньня лішку клетачнага соку. Саломеную сечку можна замяніць сухімі апілкамі, лісьцямі, торфам, але ў такім выпадку папярэдня павінен быць пакладзен слой саломенай сечкі таўшчынёй у 5—10 **см**. Паверх накладваецца слой тоўчанай сырой гліны таўшчынёй 20—25 **см**.

## Сіласаваньне запаранай бульбы

Запарваньне бульбы вытвараецца рознымі спосабамі: ці непасрэдна ў ямах і траншэях, ці ў бульбазапарніках, якія бываюць розных сыстэм, ці ў спэцыяльна-пабудаваных скрынках, а таксама на броварных заводах у генцах і на іншых дапаможных с.-г. прадпрыемствах.

Незалежна ад спосаба запарваньня неабходна мець на ўвазе, што працяжнае награваньне пры моцным прытоку пары цягне пагоршаньне якасьці прадукта: бульба становіцца чырвонаватай, няпрыемнай на смак і дрэнна паядаецца жывёлай. Таксама пры недастатковым прапарваньні атрымліваецца паўсыры прадукт. Для атрыманьня добрага сілоса неабходна ўхіліцца паказаных крайнасьцяй.

Запарка працягваецца 1—1,5 гадзіны пры ціску ў 1,5 атмасфэры. Скончаньне запарваньня пазнаецца шляхам прашчупваньня бульбы жалезным шчупам.

Запараная бульба ў скрынках, у генцах, у бульбазапарніках ці ў іншых якіх-небудзь прыстасаваньнях павінна зараз-жа ўкладвацца ў сілос і вельмі шчыльна ўтрамбоўвацца.

## Сіласаваньне марожанай бульбы

Перад сіласаваньнем прамарожаную бульбу неабходна адтаяць, добра прамыць і зьнішчыць гнілыя клубні.

Перад сіласаваньнем гэткую бульбу неабходна дасканала перабраць выкінуўшы гнілыя клубні, а таксама і загніўшыя часткі клубняў, а потым добра прамыць, для канчатковага ўдаленьня гнілых месц.

## Выгрузка корма

Сіласаваную бульбу неабходна браць з сілоснай пабудовы кожны дзень раніцой, з такім разьлікам, каб хапіла на дзень для кармленьня жывёлы.

З траншэй сілос браць толькі вэртыкальнымі слоямі, адрэзваючы іх зьверху і да дна, а з ямы, вежы і паўвежы роўнымі гарызантальнымі слаямі па ўсёй паверховасьці пабудовы. Кожны дзень як у траншэі, так і ў яме, вежы і паўвежы трэба браць слой корма ня менш 5 **см**. таўшчынёй у халодны час і ня менш 10 **см**. пры гарачым надвор'і. Не захаваньне гэтага правіла цягне папсуцьцё верхняга слою корма.

## Скарыстаньне сіласаванай бульбы

Запараная сіласаваная бульба (незалежна ад таго ці запарвалася сырая бульба, марожаная, ці загніўшая) скарыстоўваецца так як і сьвежая параная бульба.

Бульбяны сілос з незапаранай бульбы скарыстоўваецца як і сырая бульба.

Бульбяны сілос з запаранай бульбы паядаецца сьвіньнямі больш ахвотна і ў большай колькасьці, чым сілос з незапаранай бульбы. Сутачная норма запаранай засіласаванай бульбы для сьвіней, якія пастаўлены на мясны адкорм, у сярэднім раўняецца 5—7 **кг.** на галаву, а не запарананай сіласаванай бульбы да 5 **кг**.

Сярэдняя сутачная норма для маладняка буйнай рагатай жывёлы пры адкорме на сіласаванай бульбе ў залежнасьці ад жывой вагі хістаецца ад 5 да 20 **кг.**, малочнай жывёле ад 15 да 20 **кг.** у залежнасьці ад удою і жывой вагі, а адкормачным ягнятам да 2 **кг.**

**А. Жванскі.**

**Адказны рэдактар С. МІЦЬКОЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2418. 2.300 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.

